ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 35 (2333) 2 верасня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.

## НА ЗАТОПЛЕНЫМ ПАЛЕССІ

Мы ўжо паведамлялі аб небывалай паводцы на Палессі, у час якой загінулі пасевы, разбураны дарогі, нанесены ўрон жылым памяшканням і многае іншае.

Бяда, як кажуць, не прыходзіць адна. Вось яшчэ адно сумнае паведамленне: моцны ўраган пранёсся па Віцебшчыне, у Міёрскім, Шаркоўшчынскім і іншых раёнах стыхіяй пазрывала дахі з будынкаў, а некаторыя будынкі разбураны, парваны лініі электраперадач, павыварочваны лес, сады, амаль цалкам знішчаны пасевы збожжавых, загінуў адзін чалавек, некалькі атрымалі траўмы.

Прымаюцца захады па ліквідацыі стыхійных бедстваў. Аднаўляюцца камунікацыі і лініі сувязі, падаецца электраэнергія... На працягу месяца ўрадам рэспублікі для кампенсацыі нанесеных страт выдзелена 6 мільярдаў рублёў. Але што такая сума на дзве вобласці, калі адзін Жыткавіцкі раён, які найбольш пацярпеў, патрабуе сродкаў, у некалькі разоў большых. Яшчэ не да канца вырашана пытанне забеспячэння людзей прадуктамі харчавання, збожжам, бульбай і іншым, бо затоплены прысядзібныя ўчасткі, а сярэдняй зарплаты сялян — 10—15 тысяч рублёў, зразумела, на ўсё не хопіць.

21 жніўня зоны бедстваў беларускага Палесся наведаў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. У гутарках з ім жыхары пацярпеўшых ад паводкі раёнаў Гомельшчыны і Брэстчыны больш скардзіліся на цэны, бо яны цяпер страшней за любую стыхію. Падзяляючы гэту заклапочанасць, Станіслаў Шушкевіч адзначыў, што дзяржава мае намер пайсці на крокі, магчыма, балючыя, але такія, што дапамогуць аздаравіць эканоміку. "Галоўная задача — ажыццявіць стабілізацыю фінансавай сістэмы, таму што без гэтага вельмі цяжка кіраваць дзяржавай, эканомікай, грамадствам. Калі мы пойдзем на стабілізацыю, калі хочам жыць у цесным эканамічным саюзе з Расіяй і іншымі дзяржавамі Садружнасці, значыць, і гуляць трэба па адных правілах. Неабходна стабілізаваць рубель або іншую валюту, якая, магчыма, будзе ўведзена ў рэспубліцы", — сказаў Станіслаў Шушкевіч. У той жа час ён падкрэсліў, што асабіста сам застаецца прыхільнікам рубля.

Станіслаў Шушкевіч пабываў у Жыткавіцкім раёне, які найбольш пацярпеў ад стыхіі, дзе цяпер у асабліва цяжкіх умовах ідуць сельгасработы, агледзеў зоны затаплення ў пойме ракі Гарынь, азнаёміўся з меліярацыйнымі сістэмамі калгаса "Прагрэс" Столінскага раёна і ходам аказання дапамогі пацярпеўшым гаспадаркам ва ўтрыманні жывёлы і нарыхтоўцы кармоў.

Разам з Шушкевічам раёны стыхійнага бедства наведалі члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета, віцэ-прэм'ер Аляксандр Бокач, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў. Адбыліся сустрэчы з насельніцтвам і кіраўніцтвам абласцей і раёнаў, у час якіх быў прааналізаваны ход выканання пастановы ўрада па пераадоленню вынікаў паводкі. Намечаны дадатковыя меры па аказанню дапамогі пацярпеўшым.

Група народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь выказала здзіўленне пазіцыяй Старшыні Савета Міністраў Беларусі В. Кебіча, які, будучы ў гэты час на адпачынку ў Крыме, на сустрэчы з камандуючым Чарнаморскім флотам абяцаў яму пастаўкі харчавання. І гэта ў той час, калі на паліцах нашых крамаў адсутнічае цукар, алей і ніхто не ведае, што будуць есці нашы палешукі пасля таго, як на Палессе абрынулася стыхія. Дзіўным здаецца і тое, што Старшыня Савета Міністраў Беларусі так і не знайшоў часу, каб наведаць край, дзе людзі да сёння яшчэ не ведаюць, як перазімаваць — загінула ж ад паводкі ўсё: і палеткі, і агароды, і многа свойскай жывёлы.



**НА ЗДЫМКУ: сустрэча Станіслава Шушкевіча з жыхарамі Жыткавіцкага раёна, які асабліва пацярпеў ад паводкі.**



**Мінск з вышыні птушынага палёту.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*ДА 70-годдзя "НОВАЙ ЗЯМЛІ" Якуба КОЛАСА*

# ПЕСНЯ ПЕСНЯЎ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

*Давно уже у меня в голове бродит вопрос: возможна ли поэма эпическая, которая бы наши нравы, наши обычаи, наш образ жизни так передала потомству, как передал нам Гомер нравы, обычаи, образ жизни троян и греков.*

**Сябра Пушкіна В. КЮХЕЛЬБЕКЕР.**

**Дзённік 1831 года.**

*...паэма, якая ўвабрала ўсю душу беларуса.*

**Р. БАРАДУЛІН.**

Сёння мы перажываем няпросты перыяд пераацэнкі мінулага, духоўных каштоўнасцей. Так, ёсць у нас вялікія, балючыя страты, ад якіх шчыміць сэрца, ёсць — нікуды не дзенешся — свае немалыя складанасці і праблемы. Але праўда і гэта. Залячыўшы цяжкія раны, нанесеныя апошняй крывапралітнай вайной, падняўшы з руін старажытныя гарады, Беларусь — змагарка і працаўніца — узвяла манументы ў гонар сваіх класікаў і асветнікаў: Францыска Скарыны ў Полацку і Лідзе, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча ў Мінску. (Хаця пра адпаведны помнік Кастусю Каліноўскаму мы ўсё яшчэ толькі гаворым).

Мінчане любяць паспрачацца, які помнік удаўся лепей, але госцю абавязкова пакажуць усе. Цяпер ужо відавочна, што помнікі класікам сталі ледзь не самымі папулярнымі славутасцямі беларускай сталіцы.

Адна з цэнтральных плошчаў не проста носіць яго імя, а, можна сказаць, непадзельна належыць Якубу Коласу.

Дзядзька Якуб глыбока задумаўся сярод юных бярозак у акружэнні сваіх герояў. Над яго высокім чалом нячутна і нябачна цячэ час (побач з помнікам бег часу адчуваеш амаль фізічна), а паэт думае ўсё пра тое ж — пра тайны быцця, пра світанкі над Нёманам, пра сустрэчы і расставанні, пра дзівосны лёс сына лесніка, сялянскага хлопчыка, якому воляю нябёсаў выпала стаць песняром і летапісцам свайго народа. І пра не менш дзіўны лёс усёй Беларусі, якая з ускраіны імперыі цароў ператварылася ў вядомую ў свеце дзяржаву з высокім эканамічным і навукова-адукацыйным патэнцыялам. Паэт і Рэспубліка, іх немагчыма аддзяліць, яны заўсёды былі разам, калі нават акалічнасці і разлучалі іх на нейкі час.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*НОТА МЗС БЕЛАРУСІ*

### ПРОСІМСЯ ДА БЕДНЫХ

**Беларусь звярнулася да Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з просьбай разглядаць яе эканамічна менш развітой дзяржавай, чым раней, і знізіць адпаведна яе ўзнос у аперацыі ААН па падтрыманню міру. Пра гэта гаворыцца ў ноце Міністэрства замежных спраў Беларусі, распаўсюджанай у штаб-кватэры ААН у якасці дакумента Генеральнай Асамблеі.**

**Беларусь, адзначаецца ў дакуменце, была аднесена ў 1973 годзе да групы эканамічна развітых дзяржаў "па палітычных і ідэалагічных меркаваннях". Разрыў традыцыйных гаспадарчых сувязей у выніку распаду СССР прывёў "да рэзкага спаду ўзроўню вытворчасці ва ўсіх галінах, а ў выніку гэтага — і ўзроўню жыцця насельніцтва".**

**У ноце адзначаецца, што маладая беларуская дзяржава "практычна ў адзіночку нясе вялізны цяжар расходаў па ліквідацыі буйнейшай у гісторыі чалавецтва ядзернай аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі". З кожным днём растуць расходы на знішчэнне баявой тэхнікі ў адпаведнасці з Дагаворам аб скарачэнні звычайных узбраенняў у Еўропе, дэмантажы і вывазе за межы Беларусі ядзернай зброі ў адпаведнасці з Дагаворам СНУ-І і Лісабонскім пратаколам.**

**У ноце падкрэсліваецца, што пералічаныя вышэй абставіны зрабілі немагчымым для ўрада рэспублікі выконваць фінансавыя абавязацельствы ў адпаведнасці са статутам ААН.**

*ПРАВАКАЦЫЯ*

### РЭХА ВЫБУХУ

**Беларускае згуртаванне вайскоўцаў выступіла з заявай пад назвай "Выбух — правакацыя спецслужбаў", якая датычыць выбуху на плошчы Незалежнасці ў Мінску 12 чэрвеня. Найбольш верагоднай прычынай выбуху кіраўніцтва БЗВ лічыць правакацыю адной са спецслужбаў рэспублікі. Мэта правакацыі, як гаворыцца ў заяве, — перашкодзіць святкаванню Дня беларускай вайсковай славы 8 верасня і дыскрэдытаваць БЗВ. На карысць гэтай версіі, на думку кіраўніцтва БЗВ, сведчыць і факт друкавання газетамі "Правда" і "Рэспубліка" інфармацыі аб нібыта дачыненні БЗВ да выбуху. Каменціруючы гэтую заяву, старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікалай Статкевіч сказаў карэспандэнту БелаПАН: "Кіраўніцтва БЗВ яшчэ да выбуху мела інфармацыю, што супраць нас рыхтуецца правакацыя і што яна будзе звязана са зброяй".**

*МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ*

### НАШЫХ ПАВАЖАЮЦЬ

**У адкрытай у Варшаве міжнароднай выстаўцы "Еўрабілд-93" прымае ўдзел беларуская група "Мінск Інжынерынг Софт", якая распрацоўвае камп'ютэрныя праграмы для аўтаматызацыі будаўнічага праектавання.**

**Запрашэнне на буйны будаўнічы форум (каля 40 фірмаў з двух дзесяткаў краін) група атрымлівае другі год запар. Беларусы з'яўляюцца на ім адзіным прадстаўніком дзяржаў Садружнасці.**

*ЦЭНТР РЭАБІЛІТАЦЫІ*

### У АКСАКАЎШЧЫНЕ, ПАД МІНСКАМ

**У Аксакаўшчыне, што пад Мінскам, адбылося адкрыццё Цэнтра псіхалагічнай рэабілітацыі для хворых чарнобыльцаў.**

**З ініцыятывай яго ўзвядзення выступілі вядомы германскі пастар Рудольф Дорман і Беларускі камітэт абароны міру. Яе падтрымалі Савет Міністраў Беларусі і Міністэрства аховы здароўя, беларускія будаўнікі здалі дзесяць катэджаў, а немецкі бок сабраў сродкі, закупіў сантэхнічнае абсталяванне, электрасвяцільнікі і г.д.**

**З нагоды адкрыцця Цэнтра ў Мінск прыехалі пастар Рудольф Дорман і яго бліжэйшыя паплечнікі, каб не толькі прыняць удзел у цырымоніі адкрыцця, але і абмеркаваць план далейшага супрацоўніцтва па аказанню дапамогі чарнобыльцам.**

*ВЫШЭЙШАЙ КАТЭГОРЫІ*

### ПАДЛАДЖВАЮЦЦА ПАД БІЗНЕСМЕНАЎ

**У аэрапорце "Мінск-2" пачалося будаўніцтва гасцініцы на 200 месцаў, разлічанай у асноўным на абслугоўванне айчынных і замежных прадпрымальнікаў. Да іх паслуг, у прыватнасці, будуць прадастаўлены бізнес-клуб, кафэ, казіно. Пры гэтым улічваецца, што тэрыторыя аэрапорта прэтэндуе на свабодную эканамічную зону: ужо зараз там часта прызямляюцца асабістыя (лёгкаматорныя) самалёты бізнесменаў далёкага замежжа, якія не жадаюць губляць час на палёты па раскладу пасажырскіх самалётаў.**

*УЗНАГАРОДЫ*



**Летась у калгасе "Камунар" Навагрудскага раёна нанава адбудавана згарэўшая царква ў вёсцы Загор'е-Сенненскае, а ў вёсцы Малыя Вераб'евічы аднаўлена старая капліца. Усё гэта зроблена рукамі вяскоўцаў і прыхаджан пад непасрэдным кіраўніцтвам старшыні калгаса Святазара Грэйбы. За гэта падзвіжніцтва ў адраджэнні духоўнасці, за хрысціянскі падыход да добрай справы мітрапаліт Навагрудскі і Лідскі Канстанцін, рэктар духоўнай семінарыі ў Жыровічах, уручыў Святазару Іосіфавічу медаль Святога Благавернага князя Даніла Маскоўскага.**

**НА ЗДЫМКУ: Святазар ГРЭЙБА з узнагародай.**

*РАЗМІНІРАВАННЕ*

### НЕБЯСПЕЧНАЯ СПАДЧЫНА

**Небяспечную спадчыну пакінула вайна на Беларусі: да гэтай пары на яе тэрыторыі знаходзяць выбуховa-небяспечныя прадметы. І колькасць іх з года ў год павялічваецца. Напрыклад, у 1992 годзе ў параўнанні з 1991 іх знойдзена на 3 тысячы 560 адзінак больш і склала 18 тысяч.**

**Пасля атрымання карт мінных палёў Беларусі ўся тэрыторыя рэспублікі была ўмоўна падзелена на некалькі зон і замацавана за воінскімі часцямі. Адпаведна была прынята комплексная праграма па размініраванню. На жаль, пакуль тых сродкаў, якія выдзяляюцца з дзяржбюджэту на гэтую праграму, не хапае. Не хапае і самых сапёраў, нават давялося стварыць спецыяльную роту з салдат запасу. Але, як гэта ні цяжка, работа працягваецца. Сёлета абследавана і ачышчана ад небяспечных прадметаў 603 гектары зямлі.**

*КОЛАСАЎСКІ ЗАКАЗНІК*

### ПАШЫРАЕ МЕЖЫ

**Задаволена хадайніцтва адміністрацыі Літаратурнага музея Якуба Коласа аб пашырэнні межаў Коласаўскага заказніка. Зроблена гэта дзеля таго, каб захаваць мемарыяльныя мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю беларускага песняра.**

**У склад заказніка цяпер афіцыйна будзе ўваходзіць амаль 630 гектараў зямлі калгасаў імя Мічурына, імя Пушкіна і Акінчыцкага лясніцтва. Дадаюцца сюды і 86 гектараў паміж дарогай Стоўбцы—Мікалаеўшчына і ракой Нёман, якія належаць калгасу "Чырвоны Кастрычнік".**

*ФЕСТЫВАЛІ*



**У Мінску ў Доме кнігі прайшоў фестываль немецкага віна фірмы "Лангут". Прадукцыя яе добра вядомая ў свеце. Выпускае фірма больш 50 мільёнаў літраў натуральнай прадукцыі з вінаграду, каля адной трэці яе ідзе на экспарт.**

**На фестывалі наведвальнікі змаглі прадэгуставаць дзесяць марак він. Прычым, у першы дзень — бясплатна. А ў астатнія шэсць — за кошт наведвальнікаў, уваход для якіх быў свабодны.**

*"Мне ўжо не раз даводзілася адзначаць, што існаванне нелегітымнага наменклатурнага Вярхоўнага Савета і Сауміна небяспечнае для нацыі і дзяржавы. Цяпер гэта небяспека канкрэтна і разбуральна выяўляецца. Паколькі ўлада камуністычнай наменклатуры на Беларусі фактычна ўзурпаваная і не ажыццяўляецца на законных падставах, сама яна месца не ўступіць ні пры якіх абставінах. Мы бачым, што, каб застацца хоць на рэшту часу пры ўладзе, яе прадстаўнікі гатовы прадаць нашу дзяржаву ў палон Расіі, кінуць наш народ у ваенную мясарубку, у чужыя імперскія авантуры. Іх можа ачвярозіць і спыніць толькі моцнае ўсеагульнае і масавае грамадскае ўздзеянне. У такой сітуацыі (якая, трэба прызнаць, для Беларусі малаверагодная) першым патрабаваннем павінна стаць адстаўка старшыні ўрада, роспуск Сауміна і сфарміраванне часовага кааліцыйнага ўрада ўсіх некамуністычных сіл, уключаючы дэмакратычныя партыі і рухі, усе прафсаюзы (ФПБ у тым ліку), прадстаўнікоў палітычнага, дырэктарскага корпуса, якія стаяць на незалежных дзяржаўных пазіцыях, тых аграрнікаў, якія разумеюць неабходнасць рынachных эканамічных рэформ. На гэтым этапе і ў становішчы, у якое трапіла Беларусь, такі падыход (аб'яднанне некамуністычных сіл) мог бы стаць канструктыўным. Барацьба ж за палітычныя прыярытэты немінуча толькі прадоўжыла б існаванне камуністычнага ўрада".*

*Зянон ПАЗЬНЯК,*
*народны дэпутат*
*Рэспублікі Беларусь.*

*КІНАФЕСТЫВАЛІ*

### НАРАЧ У ЧАКАННІ

**Магчыма, возера Нарач хутка стане вядомым усяму свету не толькі ўласнай прыгажосцю, але і як назва аднайменнага свята кіно. Аб заснаванні на Беларусі міжнароднага кінафестывалю дамовіліся Саюз кінематаграфістаў рэспублікі і акцыянернае таварыства "Вітт". Новае дзецішча культуры мае рабочую назву "Нарач-94", і яго вырашана правесці ў ваколіцах гэтага маляўнічага возера ў канцы жніўня ці ў пачатку верасня будучага года.**

**А пакуль арганізатарамі створана дырэкцыя будучага кінафестывалю і яго прэзідэнцкі савет. Яны ж і зоймуцца распрацоўкай канцэпцыі свята кіно і прызначаць адборную камісію. Такім чынам, у майстроў экрана краін СНД і далёкага замежжа з'явілася яшчэ адна выдатная магчымасць паказаць свае мастацтва і атрымаць міжнароднае прызнанне.**

*ПРАПАНОВЫ*

### НА АДЗІН УНІВЕРСІТЭТ БУДЗЕ БОЛЬШ

**Калегія Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь падтрымала прапанову Вучонай Рады Мінскага інстытута культуры аб пераўтварэнні яго ў Нацыянальны універсітэт культуры. Мяркуецца, што гэта добра паспрые якасці падрыхтоўкі спецыялістаў — знаўцаў традыцыйнай беларускай і сусветнай культуры, педагогаў і культарганізатараў высокага класа.**

ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

# БЕСПРАЦОЎНЫЯ — ЁСЦЬ, БЕСПРАЦОЎЯ — НЯМА

**Грамадства стамілася ад адмоўных эмоцый, мы паступова пачынаем прызвычайвацца да самых сенсацыйных паведамленняў і катастрафічных прагнозаў. Здаецца, што калі б сёння спатрэбілася знайсці карціну, якая б найбольш дакладна адпавядала становішчу ў нашым грамадстве, — ёю аказаўся б "Чорны квадрат" Казіміра Малевіча. Яшчэ адзін чорны мазок на палатне нашага жыцця проста ўжо не бачны... Напэўна, таму ашаламляльная інфармацыя ў прэсе аб тым, што "па прагнозах спецыялістаў у пачатку наступнага года колькасць беспрацоўных на Беларусі складзе 700 тысяч чалавек", была ўспрынята грамадствам вельмі спакойна.**

**Так, стан эканомікі адпаведна пагаршаецца, беспрацоўе расце, але ж 700 тысяч беспрацоўных для Беларусі — гэта сапраўдная катастрофа, вынікі якой сёння нават цяжка ўявіць. Вельмі захацелася пачуць каментарыі спецыялістаў да гэтага прагнозу і падрабязней даведацца пра сітуацыю, якая чакае нас у бліжэйшы час. Вось так і нарадзілася гэтае інтэрв'ю з Мікалаем СТУКАЧАМ, дырэктарам Мінскага гарадскога цэнтра занятасці насельніцтва, чалавекам вельмі дасведчаным у сваёй справе.**

**— Мікалай Самуілавіч, калі ласка, ахарактарызуйце сітуацыю, якая склалася сёння на рынку працы.**

— Згодна з нашымі данымі, попыт на рабочую сілу з пачатку гэтага года расце, скажу больш: з красавіка па чэрвень існавала сітуацыя, калі попыт перавышаў прапанаванне. Сёння ў Мінску зарэгістравана 8 662 беспрацоўныя. З гэтымі людзьмі мы зараз і працуем.

**— Такая лічба мне падаецца вельмі далёкай ад абяцаных 700 тысяч...**

— На маю думку, гэта хутчэй за ўсё памылковае разуменне і лічбаў, і сітуацыі. Гаворка ідзе пра людзей, якія звяртаюцца на рынак працы, але не ўсе яны з'яўляюцца беспрацоўнымі. Да таго ж, зараз вельмі актыўна ідзе перабудова эканомікі, якая раптам выявіла шмат "залішніх" спецыялістаў, пераважная большасць з якіх маюць вышэйшую адукацыю. На першым месцы сярод "непатрэбных" сёння інжынеры, яны складаюць амаль 40 працэнтаў ад агульнай колькасці беспрацоўных. На другім месцы — тэхнікі, на трэцім — настаўнікі і выхавальнікі. У той жа час прадпрыемствы вельмі вострa адчуваюць патрэбу ў рабочых. Аб'яў "патрабуюцца на працу" сёння не менш, чым раней, і зарплаты нядрэнныя: мулярам, слесарам, электрагазазваршчыкам прапануюць аклады па 80—100 тысяч рублёў у месяц. Але ж нас выхоўвалі ў перакананні, што прафесія абіраецца адначы і назаўсёды, і большасць з нас лічаць вышэйшую адукацыю індульгенцыяй на ўсё жыццё. Між тым, ва ўсім свеце існуе сістэма перападрыхтоўкі кадраў, якая дазваляе мяняць прафесію і заставацца патрэбным грамадству. Ды ў нас прынята лічыць, што, калі ў цябе ёсць вышэйшая адукацыя, засвойваць рабочую спецыяльнасць — ніжэй уласнай годнасці. Я думаю, на Захадзе маюць рацыю, калі лічаць, што пэўны ўзровень беспрацоўя стымулюе развіццё рынку, дысцыпліне людзей. На жаль, іх вопыт нам не падыходзіць.

**— Чаму?**

— Нашы людзі выхаваны на ўсеагульнай занятасці. Яны лічаць, што як бы ні складвалася эканамічная ці палітычная сітуацыя, незалежна ад узроўню іх кваліфікацыі і ведаў дзяржава абавязана іх працаўладкаваць. У нас за заўсёды была не зароблена, а заработная плата. Пройдзе шмат часу, пакуль людзі прывыкнуць да новых умоў працы, навучацца правільна ацэньваць свае здольнасці і магчымасці.

**— Як вы лічыце, ці будзе працягвацца рост беспрацоўя?**

— Думаю, што будзе, бо не бачу выйсця з той эканамічнай дрыгвы, у якой апынулася рэспубліка. Зараз на працэс вызвалення працоўнай сілы пачынаюць уплываць тры стымулюючыя фактары. Першы — гэта цяжкасці з энерганосьбітамі, павышэнне цэнаў на іх, што ў сваю чаргу прывядзе да росту кошту прадукцыі. Ужо сёння прадпрыемствы лёгкай прамысловасці горада не могуць прадаць сваю прадукцыю, бо яна вельмі дарагая. Заўтра гэта абавязкова закране і іншыя галіны вытворчасці. Другі фактар —прыватызацыя. Прадпрыемствы будуць імкнуцца пазбавіцца ад непатрэбных супрацоўнікаў, што таксама паўплывае на рост беспрацоўя. І трэці фактар — гэта разрыў эканамічных сувязей. Калі дадаць сюды нестабільнасць палітычнай сітуацыі і залежнасць ад Расіі, стане зразумелым, што нас чакаюць цяжкія часіны. Якімі тэмпамі будуць ісці гэтыя працэсы — залежыць ад здольнасці ўрада трымаць у руках сітуацыю ў рэспубліцы і кіраваць ёю.

**— Канчаецца лета, хутка пачнуць працаўладкоўвацца выпускнікі школ і вышэйшых навучальных устаноў. Што чакае іх?**

— Маладыя людзі будуць першымі, каго закрануць усе гэтыя цяжкасці. Дастаткова сказаць, што сёлета з 1 863 выпускнікоў радыётэхнічнага інстытута працаўладкавана толькі 339 чалавек. Нашы навучальныя ўстановы працягваюць рыхтаваць спецыялістаў без уліку эканамічнай сітуацыі. Я бачу толькі адно выйсце —набіраць будучых інжынераў, выкладчыкаў ці ўрачоў па заяўках тых устаноў, якія потым возьмуць іх на працу. Інакш будзе працягвацца падрыхтоўка будучых беспрацоўных. Ведаеце, у мінулым годзе, калі вельмі востра паўстала праблема працаўладкавання моладзі, мы дамовіліся з 25 тэхнікумамі аб адкрыцці там груп па навучанню будаўнічым прафесіям. Мы не змаглі адкрыць ніводнай групы, таму што ніхто не захацеў ісці туды вучыцца. Я лічу, што гэтае пакаленне ўжо страчана для сферы матэрыяльнай вытворчасці, і ў гэтым вінаваты мы, дарослыя, нашы бясконцыя размовы пра грошы, тэлевізійная рэклама, якая ўвесь час заахвочвае набыць дарагія рэчы, латарэі, што прапануюць абагаціцца без усялякіх намаганняў... У выніку страчана арыентацыя на працу. Мы правялі апытанне, мэтай якога было высветліць патрабаванні да будучай працы выпускнікоў розных навучальных устаноў. Амаль ніхто з іх не хацеў бы працаўладкавацца на дзяржаўныя прадпрыемствы, яны бачаць сябе толькі ў камерцыйных структурах. Былыя школьнікі і студэнты згодныя на любыя ўмовы працы, калі за яе будуць плаціць у валюце.

**— Іх чакае жорсткае расчараванне...**

— Так, у найменш кваліфікаванай часткі насельніцтва найбольш высокія патрабаванні да жыцця. На Захадзе ўсё гэта даўно ўжо зразумелі і аднеслі моладзь да слабаабароненай катэгорыі насельніцтва, абавязаўшы дзяржаўныя прадпрыемствы браць на працу маладых спецыялістаў і проста працоўных, стварыўшы цэлую сістэму падтрымкі выпускнікоў школ, універсітэтаў і каледжаў. У нас — пакуль што не да гэтага. Можа, менавіта таму, згодна з апытаннем, нягледзячы на высокія патрабаванні да будучага месца працы, поўнасцю ўпэўнены ў сваёй будучыні толькі 6,8 працэнта выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў і 9,8 працэнта школьнікаў...

Вось на такой сумнай ноце і скончылася наша інтэрв'ю.

Сямісот тысяч беспрацоўных пакуль што не бачна, але ж калі б нават толькі адзін такі быў, і то крыж мяне Божа апынуцца на яго месцы.

"Сітуацыя, якая ў хуткім часе пагоршыцца"... Пра што толькі ні даводзіцца чуць сёння гэтыя словы. Так, мусіць, сапраўды хутка не застанецца ніводнай благой весткі, якая змагла б здзівіць нас, і самай вялікай сенсацыяй мае шанц стаць кароценькая, у некалькі радкоў добрая вестка. Але дзе яе шукаць? І ці дачакаемся? Гавораць, надзея памірае апошняй...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

ЧАМУ МЫ ТАКІЯ?





# ПАСЛЯ ПАХОДУ ПА МАГІЛЬНЫЯ КРЫЖЫ

**Нядаўна "Голас Радзімы" пісаў пра тое, у якім стане сёння Кальварыйскія могілкі ў Мінску. Сорамна і балюча, але падобную карціну можна ўбачыць амаль у любым кутку Беларусі. Людзі ў нас паўсюль аднолькавыя.**

Некалькі тыдняў таму, трапіўшы ў вёску Навадзявяткавічы, даведаўся аб існаванні старых, закінутых могілак. Знаходзяцца яны на задворках новых жылых пабудоў цэнтральнай сядзібы саўгаса "Слонімскі" Слонімскага раёна. Паміж тым невялікім кавалкам зямлі, дзе спачываюць продкі, і белацаглянымі двухпавярхоўкамі і катэджамі, дзе жывуць іх нашчадкі, пралягла мяжа са смецця, хмызняку і пустазелля. Стварыўшы звалку з бытавых адходаў, людзі тым самым, хацелі ці не хацелі, выказалі свае адносіны да памерлых. Нядбайнасць адчуваецца ўсюды. І толькі адзіная агародка трох магіл выдзялялася дагледжанасцю.

Сталыя вяскоўцы прыпамінаюць, што апошні раз тут хавалі нябожчыка дзесьці ў канцы саракавых гадоў. Як выглядалі могілкі ў лепшы для іх час, можна толькі здагадвацца. Адзіныя жывыя сведкі, якія засталіся да сённяшняга часу, — стагадовыя дрэвы.

Ад мураванай агароджы вакол могілак засталося з дзесятак-другі камянёў. Надмагільныя валуны ўраслі ў зямлю. Выдзяляюцца толькі дзве абшарпаныя, часткова разбураныя капліцкі.

Мой гід, настаўнік гісторыі мясцовай дзесяцігодкі Аляксандр Мацвіеня, расказаў, што гэтыя капліцкі пабудаваў пан Слізень прыкладна ў XIX стагоддзі, які меў у вёсцы маёнтак. У капліцках і знаходзіліся астанкі родных пана. Зроблены яны так, што была магчымасць сюды зайсці і пабыць разам з памерлымі.

Самі капліцы вельмі цікавыя па сваёй архітэктуры. Па гатычных дэталях на будынках, арачнага тыпу вокнах і вежах на вуглах можна зразумець, што майстры спрабавалі зрабіць крок да заходнееўрапейскай культуры таго часу. А вось што засталося ад іх, гэта ўжо вынік нашай сучаснай культуры. Здзекаваліся з капліц доўга. Некалі белыя сцены пакрыліся рознымі непрыстойнымі надпісамі, быццам маладыя людзі спяшаліся адзін перад адным даказаць, што такое чалавек камуністычнай фармацыі. Дахі спалены і разбураны. Унутры бруд і смецце.

Але ці тых хлапчукоў вінаваціць трэба? Гэта вынік бездухоўнасці ўсёй той жа сістэмы, у якой мы доўгі час жылі. Пад ударамі вандалаў зляталі металічныя крыжы з магільных камянёў, а самі магілы закідваліся смеццем.

Побач з могілкамі знаходзіцца касцёл, які пабудаваў у 1787 годзе і ўтрымліваў за свой кошт адзін з продкаў роду Слізеняў. Каменныя сцены яго выстаялі. Вернікі храм рэканструявалі, і цяпер ён дзейнічае. А вось ці выстаяць гэтыя дзве капліцкі?

**В. ВАЛАДАШЧУК.**

**НА ЗДЫМКАХ: так выглядаюць дзве капліцкі на старых могілках у Навадзявяткавічах.**

ЗА ЎЛАДУ САВЕТАЎ

# КАНГРЭС НАРОДАЎ

Ні для кога няма таямніцы, што да ідэі скліканні Кангрэс народаў Беларусі, які праводзіць каардынацыйны камітэт народнага руху, пэўныя палітычныя сілы падштурхнуў Першы з'езд беларусаў свету.

Мэта кангрэса — "мабілізацыя народа Беларусі для прадухілення нацыянальнай катастрофы". Ідэалагічныя напрамкі сфармуляваны наступным чынам: "за выхад з крызісу без канфрантацыі і пагоршання жыцця народа, за ўладу Саветаў як форму народаўладдзя, за дзяржаўнае аб'яднанне на ўзаемапрымальнай аснове рэспублік, што ўваходзілі ў СССР". Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН старшыня народнага руху Беларусі Сяргей Гайдукевіч, на кангрэсе плануецца прыняць праграмны дакумент і зварот да народа Беларусі. У праграмным дакуменце, па яго словах, будзе адлюстравана бачанне дэлегатамі кангрэса далейшага шляху развіцця рэспублікі, іх адносіны да асноватворных момантаў сённяшняга жыцця рэспублікі — канстытуцыйнаму працэсу, эканамічнай сітуацыі і г.д.

На кангрэсе, які адбудзецца 11 верасня і мае сабраць каля 1 400 дэлегатаў з Беларусі, чакаецца і прысутнасць вялікай колькасці гасцей. Па словах С. Гайдукевіча, ужо ў бліжэйшыя дні запрашэнні будуць накіраваны ў адміністрацыю Прэзідэнта Расіі, асабіста віцэ-прэзідэнту Аляксандру Руцкому, у Вярхоўны Савет Расійскай Федэрацыі.

* * *

Выканаўчы камітэт Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады асудзіў акцыю антыдзяржаўных, антыбеларускіх сіл, правядзенне якой запланавана ў г. Мінску на 11 верасня пад гучнай назвай "З'езд народаў (!?) Беларусі", і заявіў, што актывісты БСДГ у выпадку правядзення такой акцыі будуць пікетаваць месца яе правядзення.

## ЗАГАДКІ СТАРАЖЫТНЫХ ПАДАННЯЎ

# ДУЛЕБЫ І ГУДЫ

У БЕЛАРУСКАГА паэта К. Каганца ёсць верш “Сцяты камень”, напісаны па матывах старажытнага падання. Каб зразумець змест гэтай легенды і адначасова даць правільнае тлумачэнне звязаным з ёю геаграфічным назвам і этнічным найменням, ёсць сэнс падрабязна спыніцца на змесце твора К. Каганца.

Пачынаецца верш, як звычайны рамантычны твор:

**Засвітала раніца**
**После веснавое ночы,**
**Князь дулебаў, сам Кумар,**
**Працірае сосну вочы.**
**І, накінуўшы кажух,**
**У поле выйшаў падзівіцца,**
**Свежым ветрам веснавым**
**Сосну крыху асвяжыцца...**

Раптам князь Кумар бачыць варожы след, заве свайго баярына-ваяводу і мяркуе разам з ім, як перасцерагчы напад чужынцаў. Наступае кульмінацыйны момант, бо дулебы раптам убачылі, “што падняў бой люты Гуд, сам наперад з агнём у воку”. Як бачым, апісанне выгляду варожага князя Гуда не пазбаўлена фантастычных рысаў, што характэрна для паўлегендарных гістарычных паданняў, асабліва тых, якія датычацца старажытных плямён. Каб зберагчы свой люд, дулебскі князь Кумар выходзіць сам-насам на паядынак з Гудам.

**У мечы тнуць,**
**Іскры б’юць...**
**Ой, заўзяты бой вядуць,**
**Князям рукі ўжо памлелі,**
**Сабе спуску не даюць,**
**Хоць з труду саўсім счарнелі.**

У кожнага з князёў свае мэты (гэта вельмі важны момант для разумення агульнага зместу і сэнсу легенды).

**Славы траціць Гуд не хоча,**
**З нічым да хаты ад’язджаць,**
**За другіх Кумар баіцца,**
**Каб іх у палон не аддаць.**

Бой цягнецца вельмі **доўга (!).**

**Чуць жывуць,**
**А ўсё тнуць...**

Нарэшце, Гуд перамагае. Але здарылася нечаканае.

**З заўзятасці абодвы**
**Зысці з места не маглі, —**
**Пазастылі бо князі**
**Як першы, так другі.**
**І Кумар**
**Ды і Гуд**
**Разам скамянелі.**

З той пары прайшло многа гадоў. А адбываліся гэтыя падзеі ў цэнтральнай частцы Беларусі, у тых мясцінах, дзе

**Ольса-рака, як тады,**
**І цяпер там працякае**
**Ды ў Бярозу, у раку,**
**Сіву воду заганяе...**

У паданні, такім чынам, апавядаецца пра войны паміж дулебамі і гудамі (князь Гуд увасабляе адпаведныя племянныя групоўкі). Але ж хто такія **дулебы і гуды? Дулебамі** называлі буйнейшую ўсходнеславянскую племянную групоўку, якая ў дакіеўскі перыяд займала прасторы ў вярхоўях Заходняга і Паўднёвага Буга. Імя дулебы існавала, згодна з летапісамі, да пачатку X стагоддзя. У такім выпадку незразумела, як акаваліся дулебы на сярэднім цячэнні Бярэзіны. М. Ермаловіч лічыць, што ў выніку нашэсця обраў (авараў) у сярэдзіне VI стагоддзя частка дулебаў з Валыні перасялілася на сярэднюю Бярэзіну. Але чаму так далёка? Чаму дулебскія перасяленцы не аселі дзесьці ў Палессі, на Прыпяці, дзе было значна больш незаселеных тэрыторый? Што ж датычыцца сярэдняй Бярэзіны, то археолагі лічаць, што на гэтых землях у VI стагоддзі жылі балтыйскія плямёны, славяне ж з’явіліся пазней. Такім чынам, у VI—VII стагоддзях пасяліцца тут дулебы не маглі. А як жа тады вытлумачыць наяўнасць дулебскіх “слядоў” на Бярэзіне ў выглядзе цікавых геаграфічных назваў? Маюцца на ўвазе вёскі Дулебы (Бярэзінскі раён) і Дулебня (Клічаўскі раён).

Мы лічым, што адказ на пытанне крыецца не столькі ў саміх назвах, колькі ў тэрытарыяльным іх размяшчэнні. Вёскі Дулебы і Дулебня знаходзяцца на старажытнай паўночна-ўсходняй племяннoй граніцы дрыгавічоў, якая праходзіла па водападзелу Друці і Бярэзіны і накіроўвалася далей на поўнач да ломанай лініі, якую праводзяць умоўна паміж Оршай, Барысавам і Заслаўем. Калі ж улічыць, што этнічныя геаграфічныя імёны ўзнікалі часцей за ўсё на пагранічны, то застаецца наступнае рашэнне: найменне дулебы было звязана не з кім іншым, як з дрыгавічамі. Назвы Дулебы і Дулебня, а таксама Дулебка (рака ў сістэме Бярэзіны-Дняпроўскай), з аднаго боку, з’яўляюцца цікавымі і ў нейкай ступені унікальнымі тапанімічнымі “слядамі” на старой племяннoй граніцы, якая падзяляла дрыгавічоў і крывічоў, а з другога боку, пацвярджаюць меркаванне аб тым, што пэўная частка дрыгавіцкага насельніцтва захоўвала найменне дулебы па меншай меры да канца X стагоддзя, бо менавіта да гэтага перыяду адносіцца нагаданая племянная граніца.

Да X—XIII стагоддзяў адносіцца асваенне сялянамі Верхняга Панямоння, і далёка не апошнюю ролю ў гэтым працэсе адыгрывалі дрыгавічы. Перасяленцы-дрыгавічы, магчыма, неслі з сабой і старое этнічнае найменне — дулебы, аб чым (зноў-такі толькі ўскосна) сведчаць дзве геаграфічныя назвы ў Гродзенскай вобласці — Дуляўцы (Ваўкавыскі раён) і Дуляўшчына (Мастоўскі раён).

Але чаму этнічнае найменне дулебы мела дачыненне менавіта да дрыгавічоў? М. Ермаловіч слушна лічыць, што рассяленне дрыгавічоў у басейне Прыпяці ішло з поўдня. Новыя гісторыка-археалагічныя даследаванні паказваюць, што з былога племяннoга саюза дулебаў у выніку рассялення ў VIII—IX стагоддзях вылучыліся асобныя тэрытарыяльныя групоўкі ўсходніх славян — у далейшым вядомыя як валыняне, драўляне, паляне і дрыгавічы. Ёсць падставы лічыць, што гэтаму рассяленню дало штуршок якраз нашэсце авараў, ці обраў. Але на тэрыторыю Беларусі з’явіліся ўжо не ўласна дулебы, а іх нашчадкі — новая групоўка — дулебы-дрыгавічы. Дарэчы, імя дулебскага князя Кумара з легенды вельмі нагадвае цюркскае па паходжанню імя (дастаткова параўнаць яго з сучасным нагайскім імем Кумараш). Відаць, узаемадзеянне дулебаў з цюркскім качавым народам авараў знайшло адбітак у мове, а гэта ўжо асобны, цікавы напрамак магчымых даследаванняў.

Дулебы-дрыгавічы, як падае нам легенда, падвяргаліся нападам з боку ваяўнічых гудаў. Рабаванне, разарэнне і знішчэнне дулебскіх вёсак, як можна меркаваць, гуды чынілі рэгулярна. Нездарма князь Гуд “не хоча з нічым да хаты ад’язджаць”, а князь Кумар “за другіх баіцца, каб іх у палон не аддаць”. Заўвага ж наконт таго, што “бой цягнецца вельмі доўга”, сведчыць аб працягласці нападаў гудаў. Дык хто ж гэтыя гуды?

Адказ дапамагаюць знайсці зноў-такі геаграфічныя назвы. На тэрыторыі Беларусі ёсць населеныя пункты Гуды (Валожынскі, Лідскі раёны), Гудоўшчына (Маладзечанскі раён), Гудаўшчына (Ашмянскі раён), Гудзішкі (Шчучынскі, Іўеўскі раёны), Гудава (Верхнядзвінскі раён) і іншыя. Гэтыя вёскі знаходзяцца ў тых раёнах, дзе ў мінулым пражывалі значныя групы літоўскага насельніцтва. Геаграфічныя назвы тыпу Гуды, Гудава, Гудзішкі сустракаюцца ў паўночна-заходняй частцы Беларусі (Верхнядзвінскі раён), амаль на ўсім працягу беларуска-літоўскага пагранічча (Паставскі раён, былы Дзісенскі павет, Ашмянскі, Воранаўскі, Лідскі раёны), а таксама ў Вілейскім, Маладзечанскім, Валожынскім, Стаўбцоўскім, Іўеўскім і Шчучынскім раёнах).

З даўніх пор гудамі, гудаямі, гудасамі называлі беларусаў літоўцы, прычым якраз тых беларусаў, якія пражывалі на беларуска-літоўскай граніцы. Аднак найменне гуды выкарыстоўвалася і для абазначэння пэўных літоўскіх груп з боку літоўцаў жа, а таксама палякаў, аднак не ўсіх літоўцаў і палякаў, а толькі тых, якія пражывалі на былой прускай этнічнай тэрыторыі (Калінінградская вобласць, паўночная частка мазавецкіх зямель Польшчы).

Такім чынам, падзеі, якія падае нам легенда аб барацьбе князёў Кумара і Гуда, адбываліся дзесьці ў VIII ці ў першай плове IX стагоддзя. Старая легенда дзіўным чынам данесла да нас водгалас падзей, аб якіх няма звестак у пісьмовых крыніцах. Яна апавядае нам аб войнах паміж славянскім насельніцтвам, якое прасунулася на сярэднюю Бярэзіну і асвойвала там векавыя пушчы, займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рыбнай лоўляй, і ваяўнічымі плямёнамі, уладанні якіх пачыналіся паблізу сучаснай беларуска-літоўскай граніцы і распасціраліся далей на захад і паўночны захад (сучасная Калінінградская вобласць і паўночная частка польскіх мазавецкіх зямель). Тое, што гэтыя плямёны аб’ядноўвала адзіная назва — гуды (гудасы, гудаі), сведчыць аб існаванні пэўнага ваеннадружыннага міжплемяннoга аб’яднання. Толькі мы лічым, што ў той час, аб якім ідзе гаворка, гэтае аб’яднанне не было такім вялікім, што ахоплівала ўсю адзначаную тэрыторыю. Існаванне адзінага этнічнага абазначэння для насельніцтва гэтага рэгіёна сваімі вытокамі ідзе ў яшчэ больш раннюю эпоху, у першыя стагоддзі новай эры і звязана са знаходжаннем тут готаў, перайначанае імя якіх і адлюстравалася потым у найменні гуды. Што ж датычыць тых гудаў, якія рабілі напады на сярэднебярэзінскіх дулебаў, то для VIII—IX стагоддзяў гаворка хутчэй за ўсё можа ісці пра аб’яднанне, якое існавала прыблізна толькі на сучасным беларуска-літоўскім пагранічча і складалася пераважна на балцкай і славянскай асновах. Не выключана, што ў склад легендарных гудаў у адзначаны час уваходзіла і частка крывічоў.

Можа быць, гуды рабілі напады на дулебаў менавіта з той “КРЫВУЦІІ”, якую яшчэ ў XIV стагоддзі ўпаміналі асобныя зарубежныя гістарычныя крыніцы ў адносінах да тэрыторыі заходніх зямель Беларусі, у прыватнасці, тых, якія распасціраліся ўздоўж верхняга цячэння Нёмана. А ў XIX стагоддзі была вядома этнаграфічная група крывічоў, якая пражывала ў Віленскім павеце, у паўднёва-ўсходняй частцы Ашмянскага павета і на ўсёй прасторы за правым берагам ракі Дзітвы да граніцы з Гродзенскай губерняй.

Гуды — гэта не саманайменне, а абазначэнне, дадзенае збоку, суседзямі. Саманайменне ваяўнічых гудаў было, відаць, іншым. Этнічная ж назва крывічы разумеецца, як “тыя, хто аб’яднаўся, парадніўся”.

Этнічнае найменне крывічы паступова знікае ў XI—XII стагоддзях. На змену яму прыходзіць новае абазначэнне — палачане, якое ўпершыню ўпамінаецца яшчэ ў недатаванай частцы “Повести временных лет”. Аднак не вызначаны дакладна час нараджэння гэтага наймення яшчэ не азначае, што слова палачане было такой жа племяннoй назвай, як і крывічы. Палачане — гэта тыя ж крывічы. Назваліся яны палачанамі выключна па палітыка-геаграфічных матывах, гэта значыць, былі насельніцтвам, падуладным Полацкаму княству як асобнай, самастойнай дзяржаве і яе князям. Такім чынам, палачане — гэта “жыхары Полацкай зямлі”. Спроба М. Ермаловіча шукаць для наймення палачане нейкія племянныя вытокі і бачыць у яго з’яўленні пацвярджэнне ўзаемадзеяння і змешвання крывічоў з дрыгавічамі, якія быццам бы адбываліся на тэрыторыі Полаччыны, выглядае штучным. З’яўленне этнічнай назвы палачане адлюстроўвала агульную тэндэнцыю да змены старых племянных назваў новымі, тэрытарыяльна-палітычнымі абазначэннямі (параўнайце, напрыклад, наступныя змяненні: наўгародцы замест славене, смаляне замест крывічы). Таму не надуманыя этнічныя сувязі і ўзаемадзеянні, а ўтварэнне новага палітычнага цэнтра — самастойнага княства з цэнтрам у Полацку абумовіла нараджэнне этноніма палачане і знікненне старой племяннoй назвы крывічы.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

## *У БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА*

# УКРАІНЦЫ СЛУХАЮЦЬ ПРА З’ЕЗД

Пасля вяртання з Мінска я аказаўся ў цэнтры ўвагі сродкаў масавай інфармацыі горада. Адразу ж мяне запрасілі на гутарку ў рэдакцыю раённай газеты “Зоря Надгориння”, дзе намеснік рэдактара газеты Галіна Гурская распытала пра з’езд, пра Беларусь, пра мае ўражанні ад з’езда і ўвогуле ад наведвання Бацькаўшчыны. У мінулую суботу матэрыял пад загалоўкам “Форум беларусів сьвіту” пабачыў свайго чытача, і многія беларусы, украінцы, якія мяне ведаюць асабіста, пры сустрэчы на вуліцы, у краме ці проста па тэлефоне дзякуюць нам з пані Галінай за цікавы аповяд пра Першы з’езд беларусаў свету. Але на гэтым гаворка аб з’ездзе не скончылася! Рэдактар-карэспандэнт раённага радыё Сяргей Ахрамчук папрасіў мяне выступіць у прамым эфіры з аповядам пра з’езд і абавязкова на роднай, беларускай мове. Безумоўна, я з удзячнасцю прыняў ягоную прапанову, і амаль 30 хвілін жыхары раёна і горада слухалі з радыёпрыёмнікаў цудоўныя беларускія песні ў выкананні майго любімага спевака са Злучаных Штатаў Амерыкі Багдана Андрусышына (Данчыка) і мой аповяд пра з’езд. Дарэчы, пасля перадачы да мяне патэлефанавалі настаўнікі, дзе ў сям’і практыкуецца ўжыванне беларускай мовы тут, у нашым падольскім горадзе на беразе Гарыні, ракі, якая бярэ свой пачатак на беларускім Палессі, на беразе якой стаіць цудоўны палескі гарадок Столін. Спадарыня Лідзія Кажан родам з Баранавіцкага раёна, а яе муж — украінец, мясцовы, але яны пажаніліся падчас ягонай службы ў яе родных мясцінах. Там нарадзілася і іх першая дачка Алеся, якая загаварыла ўпершыню па-беларуску, і зараз, хаця жывуць яны ў Ізяславе амаль 5 гадоў, Алеся лепей размаўляе па-беларуску, чымсьці па-украінску ці руску. Дык вось, спадарства Лесінчукоў прапанавала зрабіць спробу па арганізацыі ў нашым горадзе таварыства аматараў беларускай культуры, дзе б людзі маглі пачытаць свае любімыя вершы ці байкі беларускіх паэтаў, паслухаць беларускія песні, а нехта б сеў за падручнікі беларускай мовы...

Карацей кажучы, я ўдзячны гэтым людзям за тое, што яны падштурхоўваюць мяне да актыўнай дзейнасці! Справа ў тым, што я рыхтую адзін раз у месяц гадзінную аўтарскую радыёперадачу для нацменшасцяў раёна і матэрыялы ў ёй даю на трох мовах, якімі валодаю: беларускай, польскай і рускай. Дык вось зараз я якраз рыхтую жніўеньскую гадзінную перадачу, якая цалкам будзе па-беларуску, і ў гэтай перадачы я даю слова спадарству Лідзіі і Васілю Лесінчукам, каб яны па радыё звярнуліся да ўсіх радыёслухачоў горада і раёна і прапанавалі стварыць таварыства ці суполку беларускай культуры. А я падтрымаю іх прапанову, узяўшы ініцыятыву ў свае рукі — я жыву самотна ў двухпакаёвай кватэры ў цэнтры горада і з задавальненнем буду запрашаць да сябе на кубачак кавы ці гарбаты, каб паслухаць перадачы мінскага радыё, пагартаць свежыя адбіткі беларускіх газет і часопісаў, паслухаць новыя запісы беларускіх песень, а каму будзе патрэбна мая дапамога ў авалоданні беларускай мовай — калі ласка, дапамагу з вялікай ахвотаю! А ў перадачы, дзе я расказваў пра Першы з’езд беларусаў свету, я з вялікім натхненнем дэкламаваў вось гэты верш нашай славутай паэткі Наталлі Арсенневай:

**Магутны Божа! Уладар сусветаў,**
**вялізных сонцаў і сэрц малых.**
**Над Беларуссю, ціхай і ветлай,**
**рассып праменне Свае хвалы.**
**Дай спор у працы будзённай, шэрай,**
**на хлеб штодзённы, на родны край.**
**Павагу, сілу і веліч веры**
**у нашу праўду, у прышласць — дай!**
**Дай урадлівасць жытнёвым нівам,**
**учынкам нашым пашлі ўмалот.**
**Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай**
**краіну нашу і наш народ!**

Лічу, што зараз, калі ў Рэспубліцы Беларусь так марудна і доўга ідзе працэс шукання тэкста для Дзяржаўнага гімна — “Малітва” Наталлі Арсенневай — гэта і ёсць БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН!!!

Жыве Беларусь!

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

г. Ізяслаў, Украіна.

Станіслаў ЦЯРОХІН

# МНОГІЯ ПРЫЙДУЦЬ АД ІМЕНІ МАЙГО

## (ЕЗУІТЫ НА БЕЛАРУСІ)

У арганізацыйнай структуры ордэна езуітаў выразна прасочваюцца рысы добра знаёмага народам былога СССР дэмакратычнага цэнтралізму камуністычнай партыі. У абодвух згаданых арганізацыях, царкоўнай і палітычнай, дэмакратызм (выбарнасць кіраўнічых органаў, іх адказнасць і падпарадкаванасць масам) быў пустым прапагандысцкім ветрам, а баль правіў аднаасобна ўлюбёны дыктатарамі ўсіх часоў цэнтралізм (правядзенне адзінай палітыкі, іерархічная сістэма пасад, званняў, чыноў, размешчаных у парадку знізу ўгору). Лучыць езуітаў з бальшавікамі і адыход ад першапачатковых, дэклараваных статутам ідэалаў і мэтаў. "Таварыства Ісуса" амаль з самага пачатку свайго ўзнікнення пачало, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя сродкі, у тым ліку амаральныя і супрацьзаконныя, пранікаць і ўмешвацца ў палітыку і ідэалогію, груба папіраючы існуючыя нормы, звычаі, традыцыі.

Езуіты імкнуліся і, як паказвае хуткае іх распаўсюджанне па свеце, мелі татальны ўплыў на ўсе сферы дзяржаўнага, грамадскага і нават сямейнага жыцця. Так званыя свецкія езуіты, якія не мелі адкрытай сувязі з ордэнам, займалі ў грамадстве самае рознае становішча. Яны былі сярод міністраў, вайскоўцаў, навукоўцаў, медыкаў, юрыстаў, гандляроў, мастакоў, велікасвецкіх дам і лавеласаў, рамеснікаў. Шырокія і разгалінаваныя сувязі, ліслівасць, подкуп, абяцанне прасунуць на недасяжнае звычайным шляхам месца ордэн умела выкарстоўваў і літаральна прапіхваў сваіх людзей у кіруючыя дзяржаўныя органы, установы, грамадскія арганізацыі. Вялікую надзею і не беспаспяхова ордэн ускладаў на школу, слушна ўважаючы, што будучыня належыць таму, за кім пойдзе моладзь. На нейкім этапе сваёй гісторыі місіянерства, прапаведніцтва багаслоўскіх ісцін у спавядальні і з амбона, усе формы філантропіі адышлі на другі план дзейнасці езуітаў, усю ўвагу яны сканцэнтравалі на выхаванні і асвеце маладога пакалення ў ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. Вось чаму яны, асеўшы ў новай краіне, у першую чаргу адкрывалі школы. Нават у Расіі яны дасягнулі даволі значных поспехаў, прабіўшы брэш у традыцыйна варожым заходніцтву артадаксальным праваслаўі. Мяркуйце самі: у пачатку XIX стагоддзя ў Пецярбургу адкрываецца праезуіцкі пансіянат абата Міколя, а неўзабаве ўзнікае ўжо адкрыта езуіцкая аналагічная навучальная ўстанова знакамітага Г.Грубера. І вучыцца ў іх не абы-хто, а дзеці расійскай арыстакратычнай эліты: Юсупавы, Галіцыны, Арловы, Гагарыны, Меншыкавы, Валконскія, Нарышкіны, Бенкендорфы, Палтарацкія, Пляшчэевы, Дзмітрыевы, Талстыя, Кутузавы, Страганавы, Шувалавы, Вяземскія, Северыны, Адаеўскія, Растапчыны, Пушкіны, Глінкі, Руміны, Навасельцавы, Каменскія і інш. Як бачым, адзін з першых удараў езуіты нанеслі ў самае балючае месца — у падчарэўе праваслаўнай царквы. Разлік быў просты і дзейсны: пройдзе колькі гадоў, і выхаваныя ў адпаведным духу нашчадкі сённяшніх расійскіх вярхоў зоймуць перадавыя пазіцыі ў дзяржаве і стануць актыўнымі праваднікамі каталіцтва на ўсход.

Нягледзячы на шматгадовую фанатычную ўпартасць, настойлівасць і мэтанакіраваную дзейнасць, задума Лопеса—Лаёлы хутчэй за ўсё ніколі б не ажыццявілася, каб на хвалі Рэфармацыі, што ўзнікла ў пачатку XVI стагоддзя, не сфарміраваўся пратэстантызм, новы накірунак унутры хрысціянства, прыхільнікі якога актыўна выступалі супраць засілля каталіцкага духавенства і папства. Менавіта новыя ідэі, пашырэнне якіх дужа напалохала рымскую курыю, вымусілі папу Паўла III пайсці на парушэнне пастаноў адразу двух сабораў і санкцыянаваць стварэнне новага ордэна, што было катэгарычна забаронена. Лаёла трапіў у струмень, не было, як кажуць, шчасця, дык няшчасце памагло.

Дух пратэстантызму даволі хутка павеяў на Беларусі. Абнародаваныя Марцінам Лютэрам у 1517 годзе славутыя 95 тэзісаў не прайшлі незаўважанымі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Цесныя гандлёвыя, культурныя, дыпламатычныя сувязі садзейнічалі хуткаму распаўсюджанню інфармацыі і яе засваенню ва ўсіх колах грамадства, у тым ліку і сярод буйных феадалаў. Многія з іх аказваюць прыхільнікам Рэфармацыі маральную і матэрыяльную дапамогу. Слуцкая лютэранская абшчына, напрыклад, пабудавала ў 1535 годзе кірху на ахвяраваным слуцкім князем Юрыем Сямёнавічам пляцы.

Пранікненне ідэй Рэфармацыі ішло з захаду, у прыватнасці, цераз залежнае ад Польшчы Прускае герцагства, дзе з 1525 года лютэранства набыло статус дзяржаўнай рэлігіі, а ў Кёнігсбергу, сталіцы створанага ў гэтым жа годзе герцагства, быў заснаваны лютэранскі універсітэт, у якім вучыліся і грамадзяне Вялікага Княства Літоўскага на выдзеленыя герцагам Альбрэхтам восем стыпендый. Між іншым у 1530 годзе ў Кёнігсбергу па запрашэнню Альбрэхта нейкі час працаваў наш славуты зямляк Францішак Скарына. Аднак вучэнне М.Лютэра не знайшло чамусьці на Беларусі шырокага прызнання. Значна большае распаўсюджанне атрымалі іншыя плыні пратэстантызму, напрыклад, кальвінізм.

Асабліва шчыраваў, адрынуўшы каталіцызм, зачыніўшы 187 касцёлаў, і актыўна садзейнічаў стварэнню пратэстанскіх абшчын і будаўніцтву кальвінскіх збораў ваявода віленскі, вялікі канцлер Мікалай Радзівіл Чорны. Абшчыны прыхільнікаў Кальвіна, які ліставаўся з Сымонам Будным, магнатамі і прапаведнікамі, узнікаюць у Вільні, Нясвіжы, Бярэсці, Слуцку, Койданаве, Кейданах, Мордах, Мінску, Полацку, Віцебску, Глыбокім, Гарадзеі, Жупранах, Заслаўі, Капылі, Іўі, Івянцы, Любчы, Ляхавічах, Наваградку, Оршы, Смаргоні, Шклове, Альшанах і іншых гарадах і мястэчках. Пры кожнай былі збор, школа для "дзетак шляхецкіх і мейскіх станаў", шпіталь, а пры найбольш буйных — і друкарня. Выдавалася духоўная літаратура, у тым ліку і на беларускай мове, напрыклад, "Катэхізіс" і "Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам". Замест царкоўнаславянскай у пратэстанцкіх школах выкладанне вялося на жывой, народнай беларускай мове, каб, як павучаў Сымон Будны маладых Радзівілаў, "...абы ваши княжацкие милости не только в чужоземских языцех кохали, але бы ся теж... и того здаўна славного языка словенского розмиловати и оным ся бавити рачыли".

Якімі матывамі кіравалася буйная арыстакратыя Вялікага Княства Літоўскага, у прыватнасці, той жа М.Радзівіл Чорны, падтрымліваючы са здзіўляючым імпэтам пратэстантызм?

Існуе некалькі меркаванняў, аднак нам больш даспадобы пункт погляду нашага земляка, паэта і этнографа XIX стагоддзя Уладзіслава Сыракомлі (сапраўднае імя Людвік Кандратовіч). Вось што ён пісаў наконт гэтага ў кнізе "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. Успаміны, даследаванні гісторыі і звычаяў" (1853 г., Вільня): "У ганарыстай галаве Мікалая Чорнага нарадзілася думка пра незалежнасць літоўскай кароны ад Польшчы. ...у яго былі ўсе падставы спадзявацца, што мара пра незалежнасць рана ці позна здзейсніцца". Зыходзячы з рэальнай небяспекі паланізацыі беларускага народа, ён на той час слушна лічыў, што "каталіцызм — вера палякаў", і "не хацеў, каб Літва мела з імі што-небудзь агульнае". Карацей кажучы, ён імкнуўся стварыць сваю, адметную рэлігію, каб пазбавіцца ідэйна-духоўнага ўплыву суседзяў з захаду і ўсходу, што, бясспрэчна, дэстабілізавала кансалідацыю народа, расколвала яго на дзве часткі. "Чыя краіна, — пісаў польскі гісторык Ю.Ясноўскі, — таго і вера". І, наадварот: чыя вера, таго і краіна.

Заўважым, як кажуць, на палях, што ідэя незалежнасці, то ўспыхваючы, то затухаючы, тлела ў родзе Радзівілаў на працягу стагоддзяў. Януш Радзівіл, напрыклад, падтрымаў магнатаў шведскай арыентацыі, парваў вунію з Польшчай і па Кейданскай дамове (1655 года) перавёў Вялікае Княства Літоўскае пад пратэктарат Швецыі; яго сын Багуслаў у сярэдзіне 50-х гадоў XVII стагоддзя прыязна ставіўся да Б.Хмяльніцкага і гетманскай Украіны, варагаваў з Варшавай, падтрымліваў адносіны са шведскім каралём; Магдалена Радзівіл, з роду Завішаў, беларуска да мазга касцей, прыхільніца незалежніцкай плыні ў беларускім вызвольным руху, арганізоўвала за свой кошт беларускія школы. З мэтай стварэння беларускай інтэлігенцыі субсідзіравала вучобу беларускіх таленавітых юнакоў, фінансава падтрымлівала беларускі нацыянальны рух амаль да 40-х гадоў XX стагоддзя. На ўсё жыццё захавала вернасць беларускай мове.

Над каталіцкай царквой Вялікага Княства Літоўскага навісла чорная хмара злавеснай навальніцы. Кожную хвіліну мог ляснуць пярун. Прэлаты забілі трывогу, якую ўзмацняла занятая каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем Жыгімонтам Аўгустам няпэўная пазіцыя ў адносінах да пратэстантаў. Некаторыя ўчынкі караля-католіка асабліва бянтэжылі каталіцкі клір. 14 красавіка 1562 года кароль адмысловым лістом, напісаным на беларускай мове, дазволіў "бурмістрам, райцам і мяшчанам тамашнім" заснаваць у Віцебску кальвінісцкую абшчыну. Але рана яшчэ было хваляваццa: Жыгімонт-Аўгуст сапраўднае сваё аблічча раскрые крыху пазней, калі са спакоем ката падрэжа сваёй Бацькаўшчыне жылы на Люблінскім сойме 1569 года. А пакуль трэба было лічыцца з уплывовым М.Радзівілам Чорным, да ўсяго ён быў адным з тых, хто дапамог улагодзіць сямейныя адносіны з маткай, каралевай Бонай, і спрыяў утаймаванню надакучлівых соймавых бур з прычыны жаніцьбы з прыгажуняй Барбарай Радзівілавай, удавой ваяводы наваградскага С.Гаштольда.

У пачатку 60-х гадоў XVI стагоддзя ў рэфармісцкім руху ўзніклі новыя, радыкальна-сацыяльныя накірункі — анабаптызм і антытрынітарызм, ідэі якіх знаходзілі самы гарачы прыём сярод гарадской беднаты. Павялічваецца колькасць іх прыхільнікаў і ў сялянскім асяроддзі. Каталіцызм набліжаўся да той крытычнай рысы, за якой пачынаецца агонія. Папскі нунцый Камендоні ацэньвае сітуацыю як небяспечную. У сакавіку 1564 года паведамляе: "Ерэтычнае нахабства і свавольства бязмежныя", "колькасць ерэтыкоў страшэнна ўзрастае", "амаль штодзень апаганьваецца які-небудзь касцёл то ў адной, то ў другой частцы дзяржавы". Нунцый са скрухай адзначае, што ва ўсім войску застаўся ўсяго толькі адзін ксёндз, ды і той знаходзіцца пры гетмане.

У студзені 1564 года напалоханы віленскі біскуп Валерыян Пратасевіч імчыцца за ратункам да папскага нунцыя ў Варшаву. Падчас размовы ён падкрэсліў, што становішча рэлігійных спраў у Вялікім Княстве Літоўскім непараўнальна горшае, чым у Польшчы. Клір дэмаралізаваны і запалоханы. Бездапаможнай гэтым разам аказалася і інквізіцыя, запрошаная ў княства для барацьбы з гусіцкімі прыхільнікамі яшчэ ў 1436 годзе. Тут, напэўна, Пратасевіч і выказаў просьбу прысылаць на Беларусь баявы, як цяпер кажуць, атрад хуткага рэагавання рымскай курыі, гадаванцаў і прыхільнікаў Лаёлы.

"Таварыства Ісуса" якраз знаходзілася ў апагеі сваёй магутнасці і, рашуча змінаючы на сваім шляху ўсялякія перашкоды, інтэнсіўна асвойвала новыя тэрыторыі, напрыклад, Афрыку і Амерыку. Новы генерал ордэна, іспанец Я.Лайнес, больш хітры, абышоў сваіх канкурэнтаў Паланку і Бабедзіллю, узяў 2 ліпеня 1558 года верх на выбарах і быў зацверджаны папай Паўлам IY пераемнікам свайго настаўніка. Ён шмат у чым перасягнуў Лаёлу, напрыклад, дамогся адмены шэрагу абмежаванняў, якія стрымлівалі дзейнасць ордэна.

Спачатку езуіты з'явіліся ў Польшчы, дзе ў 1564 годзе кардынал Гозюш выдзяліў ім сядзібу ў Брунсбургу на Варміі. На Беларусь, дзе становішча было амаль крытычным, яны чамусьці не спяшаліся. У Вільні атабарыліся толькі праз пяць гадоў, у 1569-м годзе. Чым выклікана такое працяглае прамаруджванне, якое адзін з духоўных нашчадкаў Лаёлы лічыў у XX стагоддзі "смерці падобным"? Магчыма, затрымка была выклікана няведаннем мясцовых умоў. Першая група, што прыбыла ў Польшчу на чале з рэктарам Крыштофам Штромбалем, складалася з немцаў і італьянцаў, якія не ведалі звычаяў, традыцый і мовы чужой краіны. А езуіты набылі за чвэрць стагоддзя пэўны вопыт і ўжо не кідаліся стрымгалоў у вір, тым больш рэфармацкі. Не магла не стрымліваць іх і варожая пазіцыя большасці ўплывовых магнатаў-пратэстантаў. Сам вялікі канцлер — заўзяты кальвініст, а ў доме віленскага ваяводы прапаведнік Тамаш публічна "знеслаўляе Сына Божага і яго славу". Езуіты рыхтаваліся і чакалі свайго часу. І ён надышоў...

У 1569 годзе Жыгімонт Аўгуст насуперак волі беларуска-літоўскіх магнатаў, пры падтрымцы польскіх феадалаў і духоўным натхненні рымскай курыі адцяў у карысць Польшчы Падляшша, Валынь, Падолле, Кіеўшчыну і дамогся ўтварэння федэратыўнай дзяржавы — Рэчы Паспалітай. Вось тут, скарыстаўшы момант, езуіты рушылі на ўсход і акапаліся ў Вільні. Менавіта ў 1569 годзе пачаўся наступ контррэфармацыі, у авангардзе якога ішлі салдаты чорнага генерала. Як забіты ў зямлю асінавы кол, яны хутка прыжыліся і пусцілі ўчэпістае карэнне ўглыбіню і ўшырыню. Ужо ў наступным 1570 годзе ў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага ўзнікае калегіум. Затым, бы грыбы пасля цёплага дожджыку, яны паяўляюцца ў Полацку, Нясвіжы, Бярэсці, Віцебску, Гародні, Магілёве, Пінску, Наваградку, Слуцку, Бабруйску, Оршы, Драгічыне, Мерачы. Гэта былі навучальныя ўстановы пераважна гуманітарнага напрамку. Выкладаліся граматыка, паэзія, рыторыка, лацінская і грэчаская мовы. Настаўнікі не прытрымліваліся строга рамак канкрэтных дысцыплін. У класе паэзіі, напрыклад, знаёміліся з геаграфіяй, гісторыяй, міфалогіяй.

Для падрыхтоўкі высокакваліфікаваных кадраў езуіцкі калегіум у Вільні адмысловым лістом Сцяпана Батуры ў 1578 годзе быў рэарганізаваны ў акадэмію з наданнем яму праваў Кракаўскага універсітэта. На філасофскім, багаслоўскім, а з 1644 года і на юрыдычным факультэтах вучылася 700—800 студэнтаў, працавала 8—12 прафесараў. Неўзабаве ў Вільні адчынілі другую духоўную акадэмію, званую з удзячнасці папе за фінансавую падтрымку Грыгарыянскай. Трэцюю акадэмію езуіты стварылі ў 1812 годзе ў Полацку на базе калегіума. Акадэміі давалі па тым часе грунтоўную агульную і асабліва тэалагічную адукацыю. Ад студэнтаў патрабавалася цвёрдае веданне схаластычнага, станоўчага, маральнага, палемічнага і казуістычнага багаслоўя, кананічнага права, святога пісання, стараяўрэйскай мовы. Шырока практыкаваліся дыспуты, на якіх гартавалася палемічнае майстэрства і красамоўства студэнтаў.

Сістэма адукацыі, якая практыкавалася ў езуіцкіх навучальных установах, мела станоўчыя і адмоўныя бакі. Ценявы бок яе заключаецца ў тым, што яна была цалкам накіравана на выхаванне безразважнай рэлігійнасці, "веру, таму што веру", сляпой паслухмянасці і адданасці ордэну, нецярпімасці да ўсіх відаў іншадумства, прыстасаванасці да любых абставін, крывадушша. Нездарма ж слова "езуіт" шмат у якіх мовах стала сінонімам падспуднасці і маны, схаваных пад маскай знешняй прыстойнасці. Менавіта па гэтай прычыне прафесары універсітэта ў горадзе Саламанка выступілі супраць заснавання ў горадзе езуіцкага калегіума, а іх лідэр вядомы багаслоў Кано назваў прыхільнікаў Лаёлы "авангардам антыхрыста". Адмоўна ацэньвалі езуітаў і інтэлектуальныя колы Беларусі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Наўрад ці адчуваў да іх павагу і Ул.Сыракомля, калі ўжываў у "Вандроўках па маіх былых ваколіцах" такія выразы, як "хітрыя езуіты", "ачмураныя езуіцтвам".

Прагяг.
Пачатак у № 33-34.

# ПЕСНЯ ПЕСНЯЎ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Кажуць, што пісьменнік — гэта памяць. Памяць Якуба Коласа бязмежная, у ёй адкладваліся рысы сустрэтых твараў, найтанчэйшыя рухі душы, фарбы і пахі роднай зямлі.

Лепшыя творы яго часцей за ўсё аўтабіяграфічныя. Таму гаварыць аб яго вытоках і каранях, пра бацьку, тыповага беларускага селяніна, які нарадзіўся яшчэ "за прыгонам" і выклікаў павагу навакольных тым, што ўмеў распісацца, або пра маці і іншых сямейнікаў — гэта значыць гаварыць пра самае дзівоснае і выдатнае тварэнне Якуба Коласа — паэму "Новая зямля".

Лёс гэтага твора глыбока павучальны. Паэма з самага пачатку карысталася, як карыстаецца і дагэтуль, безагаворачным поспехам у чытача і выклікала гарачыя спрэчкі крытыкаў, якія біліся над разгадкай яе абаяння.

Мяркуйце самі. Тысячы радкоў, аднастайная на першы погляд рытміка, самыя простыя, нярэдка дзеяслоўныя рыфмы. Народная эпапея? Нетаропкі раман у вершах? Ды ці магчыма такое ў наш час? Аказваецца, магчыма, калі тое, пра што пішаш, сагрэта найвялікшым пачуццём, любоўю.

Якуб Колас паказаў рэдкі прыклад творчай засяроджанасці, што ідзе ад сялянскай грунтоўнасці і рупнасці (лепшыя рысы народнага беларускага характару, павагу і прывязанасць да зямлі, якая не даруе верхаглядства, паэт захаваў да канца жыцця). Першыя радкі паэмы нарадзіліся ў 1911 годзе ў мінскай турме, куды Колас, тады яшчэ малады сельскі настаўнік, нядаўні выпускнік Нясвіжскай семінарыі Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, трапіў за ўдзел у дэмакратычным руху і спробу арганізаваць настаўніцкі саюз. За турэмнымі кратамі думкі аб родным доме, вобразы маленства, што паўставалі ў памяці на фоне цудоўнай беларускай прыроды і размераных цыклаў сялянскага жыцця, былі бясконца прыемныя і выратоўныя, хоць паэт-рэаліст ніколі не ідэалізаваў гэтае жыццё, не адварочваўся ад сацыяльных канфліктаў эпохі. Дарэчы, як гэта ні парадаксальна, у гісторыі сусветнай літаратуры нямала прыкладаў, калі мастацкія шэдэўры, якімі ганарыцца сёння чалавецтва, ствараліся або задумваліся не ў лепшых умовах — у цямніцы, выгнанні. Называюць Сэрвантэса, Дастаеўскага, Чарнышэўскага. А наш Дунін-Марцінкевіч хіба не ў тым жа мінскім астрозе задумаў бессмяротную "Пінскую шляхту"? Ды і вялікі цёзка і папярэднік Коласа Кастусь Каліноўскі выспеліў за кратамі магутныя "Пісьмы з-пад шыбеніцы". Вядома, гэта толькі парадокс, а зусім не агульны закон творчасці.

Але ўвойдзем-акунёмся ў такі звыклы і кожны раз па-новаму дзівосны космас "Новай зямлі".

У цэнтры паэмы ляснік Міхал (бацька паэта), выгнаны зямельнай цеснатой з роднай вёскі, вымушаны служыць у магнатаў князёў Радзівілаў, у вечнай залежнасці ад паноў і падпанкаў, заўжды на пабягушках у незлічоных службоўцаў княжацкай адміністрацыі:

**А ты, пакуль ёсць рух і сіла,**
**Служы панам,**
**збірай іх крошкі**
**І ведай цьмяныя дарожкі**
**Батрацкай долі да магілы,**
**Служы, пакорны і пахілы,**
**Служы з-за панскага**
**агрызка**
**І заўжды гніся нізка-нізка!**

Чалавек з развітым пачуццём уласнай годнасці, Міхал марыў пра свабоду, якую па-сялянску ўяўляў сабе ў выглядзе лапіка ўласнай зямлі. Учытаемся ўважліва ў хрэстаматыйны тэкст:

**А дзе ж той выхад!**
**дзе збавенне**
**З няволі цяжкай,**
**з паланення!**
**Адзін ён ёсць: зямля, зямля,**
**Свой пэўны кут, свая ралля:**
**То — наймацнейшая аснова**
**І жыцця першая ўмова.**
**Зямля не зменіць**
**і не здрадзіць,**
**Зямля паможа і дарадзіць,**
**Зямля дасць волі, дасць і сілы,**
**Зямля паслужыць да магілы,**
**Зямля дзяцей тваіх не кіне,**
**Зямля аснова ўсёй айчыне.**

Уражвае шматгалоссе, поліфанічнасць гэтай народнай філасофіі і палітэканоміі, багацце аргументацыі. як быццам раіцца ўвесь народ, знаходзячы ўсё новыя і новыя матывіроўкі, новыя пацвярджэнні правільнасці абранага кірунку, не забываючы пры гэтым і дзяржаўных карысцяў ("Зямля — аснова ўсёй айчыне"). Коласаўскі ўзнёслы гімн зямлі, яе выратавальнай моцы вельмі блізкі поглядам Каліноўскага і іншых рэвалюцыйных дэмакратаў. Каліноўскі так акрэсліў сялянскі ідэал свабоды ў "Мужыцкай праўдзе": "Мы сягодня ўсе ўжэ ведаем, што чалавек вольны гэта калі мае кусок сваей зямлі, за катору ані чыншу і аброку не плаціць, ані паншчыны не служыць. Калі плаціць малыя падаткі і то не на царскія стайні, псярні і курвы, а на патрэбу цэлага народу. Калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніць сваго краю тагды толька, калі які непрыяцель надыйдзе. Калі робіць усенка, што спадабае і што не крыўдзіць бліжняга і хвалы боскай. І калі вызнае тую веру, якую вызнавалі яго бацькі, дзеды і прадзеды. От што вольнасць значыць". Тут тая ж унутраная дыялагічнасць, поліфанічнасць, саборнасць думкі, што і ў Коласа, тая ж рознабаковасць аргументацыі. І пачынае мудры ды знаходлівы "Яська-гаспадар", як і Колас, з усё той жа матухны-зямелькі.

Доўгі, пакутлівы шлях да гэтага народнага ідэалу. Міхал памірае, так і не дачакаўшыся здзяйснення сваіх запаветных мараў, але і ў яго, у ягоных блізкіх былі ў жыцці цудоўныя, светлыя хвіліны, як і ў кожнага, хто прыходзіць у гэты свет.

Свет сатканы з радасцей і нягодаў. Мастак павінен ахапіць жыццё ва ўсёй паўнаце. Маладога Коласа цалкам пагльнула, захапіла творчая звышзадача — стварыць мастацкую, паэтычную энцыклапедыю народнага жыцця.

Што гэта было? Спроба пабудаваць маленькую мадэль агромністага свету? Або наадварот — цесны сялянскі абмежаваны свет узвысіць да ўзроўню велізарнага мастацкага абагульнення?

У адным ён быў упэўнены — у высокай самакаштоўнасці і багацці сялянскай, народнай культуры, якую ўваскрашаў у сваім магутным палатне. Аднаму служыў куміру — жыццёвай і мастацкай праўдзе.

Да здзяйснення сваёй мары Якуб Колас ішоў звыш дзесяці гадоў. Адбываліся грандыёзныя ўсяленскія катаклізмы — сусветная, а потым грамадзянская войны, падалі кароны, руйнаваліся імперыі, у муках-пакутах нараджаліся новыя дзяржавы, а спакуслівая задума ўсё не адпускала паэта. Былі, зразумела, перапынкі (сусветная вайна прагнала з родных мясцін, а потым і прымусіла апрануць вайсковую форму — ён удзельнік вайны, падпаручнік), зразумела, паэт адгукаўся неяк, хаця б у лірычных адступленнях, на важнейшыя знешнія падзеі. А галоўнае, ён сам вырас, узмужнеў за гэтыя гады як грамадзянін і мастак, яго душа саспела для вялікіх здзяйсненняў.



Многае падказала эпоха, дала задуме новыя крылы.

Хаця што там эпоха. Зусім не рызыкант па натуры, ён мог паспрачацца (і сапраўды спрачаўся) і з эпохай. Паэма прыйшла-абрынулася на яго як насланнё і наканаванне і ад яго нават як быццам не залежала. Можна сказаць, яна сама вылівалася з ягонай перапоўненай душы, ён не пісаў, а даваў ёй выйсце.

І ён стварыў не толькі сваю галоўную кнігу, але і адзін з лепшых, несмяротных твораў усёй беларускай літаратуры. Хто ведае — можа быць, нават лепшы яе твор. А наперадзе яшчэ трэба было дзесяцігоддзямі адстойваць сваё дзецішча ад зняважлівага неразумення палітызаванай крытыкі, хутчэй нават не адстойваць, а чакаць справядлівай ацэнкі.

Твор не надта ўкладваўся ў аднамернае бачанне жыцця, якое прапаноўвалася грамадскай сітуацыяй. Краіна хварэла на суцэльную калектывізацыю, а ў кнізе, як ні кажы, мара селяніна пра ўласны кавалак зямлі.

Першае, пакуль даволі далікатнае папярэджанне пісьменнік атрымаў яшчэ ў адносна спрыяльныя для творчасці 20-я гады, адразу пасля завяршэння твора. Захаваўся дакумент сямідзесяцігадовай даўнасці:

"Протокол № 10 заседания коллегии Главлита Белоруссии от 20/I I-23 г.

Присутствовали: тт. Шукевич-Третьяков, Раков, при секретаре Соскиной.

Слушали: 64. Якуб Колас. "Новая земля". Поэма на белор. яз. Издательство "Советская Беларусь".

Постановили: 64. Разрешить печатать. Предложить автору дать предисловие, в котором указать, что в поэме описана жизнь тысяча восемьсот девяностых годов" (Беларускі дзяржаўны архіў).

Здаецца, нічога кепскага не адбылося, ўсё прайшло як належыць, але нейкае незадавальненне паэмай, насцярожанасць у адносінах да яе ўжо адчуваецца і тут. А колькі гэтых прадмоў і тлумачэнняў пісьменніку давядзецца напісаць у будучыні. Або чакаць, пакуль напішуць іншыя.

У 1933 годзе выдатны рускі паэт, паплечнік Блока і іншых славутых творцаў "сярэбранага веку" Сяргей Гарадзецкі, перакладчык "Новай зямлі" на рускую мову, пісаў Коласу: "Вы показали историческую неизбежность гибели своего героя в условиях старой жизни, но Вы настолько сроднили читателя с этим героем, что у читателя невольно возникает вопрос, а что было бы с Михасем теперь? Понял ли бы он свою ошибку поисков освобождения в "своем" куточке или же нет? Нашел бы другую дорогу или нет?.. Не следует ли Вам написать вступление, пролог, или, наоборот, послесловие, эпилог к поэме, написать сейчас, в 33 году, чтобы ориентировать читателя в недоуменных вопросах, которые у него неизбежно возникнут?" (Зб. "З жыццяпісу Якуба Коласа. Дакументы і матэрыялы". Мн., 1982). На жаль, гэтыя пытанні сапраўды ўзнікалі, але не столькі ў чытачоў, колькі ў выдаўцоў і цэнзараў, ад якіх залежаў лёс вялікага твора. Быў час — верхаводзілі людзі тыпу Бэндэ. Ім і заказваліся прадмовы. І былі яны, гэтыя прадмовы, чамусьці ўсё не адвакацкія, а пракурорскія, не радаваліся ўдачам і знаходкам, а прыдзірліва вышуквалі небяспечныя ідэйныя хібы.

**Піша, піша Бэнда,**
**Крытык наш суровы,**
**Да паэм даўнейшых**
**Грозныя прадмовы, —**

іранізаваў Колас у адной з эпіграм, каб адвесці душу.

А сэрца балела. Апускаліся рукі. Хоць у свой твор верыў заўсёды. Як патрэбна была яму ў тыя гады падтрымка маладзейшых сяброў, якія лепш улоўлівалі нюансы непрадказальнай грамадскай сітуацыі. У нядобрай памяці 1938 годзе ён з падзякай і надзеяй напісаў Пятру Глебку: "Чорны казаў мне не раз пра "Новую зямлю". Цяпер пра яе гаворыш і ты, Пятрусь. Мяне гэта дужа радуе. Бо я пагадзіўся з мысляю, што "Новую зямлю" ацэняць людзі потым, калі я буду ўжо нябожчыкам. Гэта вельмі добры, я сказаў бы, "благародны" намер — зірнуць на "Новую зямлю" з другога пункту, адступіўшы ад пункту гледжання Бэнды". Колас не заўсёды цалкам раскрываецца ў сваіх пісьмах, але тут ясна чуецца глыбіннае — крыўда, надзея на лепшае, нават нейкая безабароннасць, просьба...

Ёсць вялікі, універсальны закон гісторыі (аптымістычны ў цэлым закон) — усё з цягам часу становіцца на сваё месца. Хаця ў дачыненні да лёсаў канкрэтных людзей справядлівасць нярэдка прыходзіць занадта позна. Шчасце Коласа: ён усё ж дачакаўся поўнай рэабілітацыі свайго любага дзецішча.

Сёння гэтую паэму параўноўваюць з "Яўгеніем Анегіным" Пушкіна, з "Панам Тадэвушам" земляка і аднафамільца Коласа Адама Міцкевіча, называюць "найвялікшай кнігай у паэзіі беларускай і адной з самых унікальных кніг у паэзіі сусветнай" (Н. Гілевіч). Важна падкрэсліць самабытнасць і глыбінную народнасць "Новай зямлі". Што ні кажы, але "Яўгеній Анегін" і "Пан Тадэвуш" (дарэчы, апошні — таксама з беларускага жыцця) усё-такі ахаплівалі толькі верхні пласт грамадства. І. Навуменка падмеціў: "Калі гаварыць аб усходнеславянскіх літаратурах, то твор такога энцыклапедычнага ахвату сялянскага, народнага жыцця заканамерна ўзнік толькі ў беларускай літаратуры, якая станавілася літаратурай нацыянальнай". Сапраўды, чаму "Новая зямля" з'явілася менавіта ў беларусаў? Надзвычай цікавае пытанне для даследчыкаў, якое выводзіць нас на самыя кардынальныя аспекты нацыянальнай адметнасці і самабытнасці.

"Той, хто хоча зразумець Беларусь, яе народ, яго побыт, яго імкненні (асабліва да рэвалюцыі), той павінен азнаёміцца з гэтым цудоўным творам", — гаварыў вучань Коласа П. Броўка. Праўда, і тут ёсць яшчэ невыпадковая асцярожлівая агаворка — "асабліва да рэвалюцыі".

**Мой родны кут,**
**як ты мне мілы!..**
**Забыць цябе не маю сілы!**
**Не раз, утомлены дарогай,**
**Жыццём вясны мае ўбогай,**
**К табе я ў думках залятаю**
**І там душою спачываю... —**

запеў да "Новай зямлі" стаў своеасаблівымі лірычнымі пазыўнымі для многіх пакаленняў беларусаў. У перакладзе С. Гарадзецкага і іншых рускіх майстроў паэтычны шэдэўр Якуба Коласа як дарагі дар увайшоў у агульную культурную скарбніцу народаў. Хаця ў цэлым паэты прызнаюць, што паэму Коласа, той жа запеў "Мой родны кут, як ты мне мілы!.." адэкватна, без стратаў, пераствараць на рускай або якой іншай мове немагчыма.

Аднак спробы робяцца і будуць рабіцца. Паступова шырокі свет адкрывае "Новую зямлю" і новыя грані паэтычнага генія яе стваральніка. Англійская паэтка Вера Рыч, шанавальніца і перакладчыца беларускай паэзіі, сказала ў адным з інтэрв'ю, што лічыць Якуба Коласа паэтам сусветнай меркі, маштабаў Шэкспіра і Дантэ.

У наш век вострых грамадскіх праблем (экалогія, урбанізацыя, Чарнобыль, страта ідэалаў, абвал злачыннасці) "Новая зямля" нібыта цудоўны паэтычны храм-запаведнік беларускай прыроды, народных маральных устояў, духоўнага здароўя народа. І нам яшчэ не раз захочацца з пашанай увайсці ў гэты храм. "Нашим душам, изнуренным химикалиями, изголодавшимся по натуральной правде, нужна такая поэзия", — сказаў рускі паэт Андрэй Вазнясенскі. Сказаў наконт тыпалагічна блізкай "Новай зямлі" паэмы літоўца Данялайціса "Чатыры пары года". У яшчэ большай ступені гэтыя словы можна адрасаваць Коласаваму шэдэўру.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: Якуб КОЛАС. Фота 1924 года.**

НЕ ЗАБЫВАЙМА ІХ ІМЁНЫ

# АКТЫВІСТКА ТБШ АЛЕНА ЛЯБЕЦКАЯ

КУЛЬТУРНА-асветная арганізацыя Таварыства беларускай школы (ТБШ) існавала ў Заходняй Беларусі з 1921 да 1937 года. Яна праводзіла шырокую і актыўную дзейнасць дзеля адкрыцця беларускіх школ, стварала гурткі самаадукацыі працоўных, бібліятэкі-чытальні, драмгурткі, наладжвала выступленні перад працоўнымі, выдавала газеты і часопісы на беларускай мове. У 1928 годзе, напрыклад, у Заходняй Беларусі было ўжо 500 гурткоў ТБШ, якія налічвалі каля 30 тысяч членаў.

Кіраўнікамі і актывістамі Таварыства беларускай школы былі такія асобы, як Браніслаў Тарашкевіч, Ігнат Дварчанін, Піліп Пестрак, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Рыгор Шырма і многія іншыя беларускія інтэлігенты.

Побач з вышэйпералічанымі беларускімі юнакамі стаіць імя прыгожай слонімскай дзяўчыны Алены Лябецкай (1903—1981). Сёлета ёй споўнілася б 90 гадоў. Менавіта ў гэты юбілей і хочацца трохі нагадаць пра яе.

Нарадзілася Алена Лябецкая 2 ліпеня 1903 года на хутары Лагуцёва Казлоўшчынскай воласці Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён) у сям'і селяніна-серадняка. У 1926 годзе стала адным з арганізатараў ТБШ у Слонімскім павеце. "Свой першы арганізацыйны сход мы правялі ў Казлоўшчыне, у доме М. Тарасюка... Старшынёю выбралі мяне. Сход вырашыў арганізаваць гурток самадзейнасці. Мы тут жа падабралі патрэбную п'есу. На пастаноўку п'есы трэба было дабіцца дазволу ў Слонімскім старостве, куды я хадзіла пяшком за 30 кіламетраў... Першы спектакль мы паставілі ў Казлоўшчыне, у гумне Тарасюка. Іншых больш падыходзячых памяшканняў не было, а дзе і былі, то нас туды не пускалі. Але такое незвычайнае памяшканне нас не збянтэжыла. Усе сцены гумна мы прыбралі бярозкамі і беларускімі даматканымі коўдрамі, якія прынеслі дзяўчаты. Пры ўваходзе з абодвух бакоў да нашага "тэатра" былі высаджаны беластвольныя бярозкі. Сцэну змайстравалі нашы таварышы. Білеты мы прадавалі самі. Былі і запрашальныя білеты, якія пісаліся ад рукі і рассылаліся па вёсках.

Поспех нашага спектакля быў незвычайны. Гумно не ўмяшчала ўсіх жадаючых паглядзець спектакль. Ад паступіўшага грашовага збору частка сродкаў была перададзена ў МОПР. На астатнія грошы мы купілі беларускую літаратуру для арганізацыі бібліятэкі. Кнігі для бібліятэкі збіралі таксама і па хатах. Кожны член гуртка збіраў кнігі сярод сваіх знаёмых. Пасля спектакля дэкламавалі вершы Янкі Купалы "Чаго вам хочацца, панове, які вас выклікаў прымус?", "Лявон", "Курган", "Мужык" і іншыя.

За час работы гуртка былі пастаўлены п'есы "Страхі жыцця", "Паўлінка", "Лекары і лекі", "Збянтэжаны Саўка".

Хор вывучыў песні "Ой ты, Нёман, рака", "Жыў на свеце Лявон" і іншыя.

Работа гуртка не абмяжоўвалася толькі мясцовымі рамкамі. Мы хадзілі ставіць спектаклі і даваць канцэрты і ў іншыя вёскі, каб зацікавіць, разбудзіць працоўны народ да дзеяння, знайсці сабе паслядоўнікаў. Памятаю вёскі Мілашэвічы, Даўбневічы, Скрундзі, дзе мы ставілі спектаклі, заязджалі нават у такія аддаленыя ад нас мясціны, як Дзярэчын і нават горад Слонім..." — такія ўспаміны пакінула Алена Лябецкая сваім нашчадкам (былі змешчаны ў кнізе "У суровыя гады падполля", Мн., 1958 г.).

30 снежня 1927 года ў Вільні адбыўся першы з'езд ТБШ. Дэлегатамі ад Слонімшчыны былі Павел Крынчык, Сямён Жыткевіч, Алесь Біч і Алена Лябецкая, якая тут была выбрана старшынёю рэвізійнай камісіі.

У сакавіку 1929 года яе выклікалі ў Вільню для работы ў Галоўнай управе ТБШ. Там яна вяла аддзел перапіскі, пасля загадвала беларускай бібліятэкай-чытальняй. Тут, у Вільні, Алена Лябецкая прымала актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да склікання Еўрапейскага сялянскага кангрэса ў Берліне. Дарэчы, і яе таксама выбралі дэлегатам на гэты форум, але паехаць яна не змагла: 13 лютага 1930 года яе арыштавала польская паліцыя і пасадзіла ў віленскую турму на Лукішках.



У выніку абмену палітзняволенымі ў 1933 годзе Алена Лябецкая прыехала ў БССР. Тут паступіла ў Белдзяржуніверсітэт, а таксама працавала ў ЦК МОПР БССР. Праўда, гэты палітабмен ёй і яе сям'і шчасця не даў. У 1937 годзе яе неабгрунтавана абвінавацілі ў польскім шпіянажы і адправілі далёка на Поўнач. Рэпрэсіраваны быў і яе муж Павел Крынчык, які ў 1928 годзе быў выбраны паслом польскага сейма.

На радзіму Алена Лябецкая вярнулася пасля вайны. Пазней была поўнасцю рэабілітавана. Жыла з сям'ёй у Слоніме, працавала да пенсіі бухгалтарам у аддзеле культуры Слонімскага райвыканкома...

Ёсць у беларускага паэта Міхася Васілька цудоўнае чатырохрадкоўе "Перад бурай":

**Калі насоўваецца мрок пануры,**
**Ад спалоху дрыжаць адны асіны.**
**Мы не дрыжым!.. Так перад бурай**
**Маўчаць дубы ў задуме сіняй...**

У гэтых радках мне бачыцца сёння вобраз былой актывісткі ТБШ Алены Лябецкай, якую не знішчылі ні пілсудчыкі, ні бальшавікі ў сваіх турмах і канцлагерах.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ

У выдавецтве "Полымя" выйшла брашура Анатоля Кулагіна "Адраджэнне готыкі" (серыя "Помнікі беларускага дойлідства"). Слайды да яе падрыхтаваў У. Варварын. Добрыя ілюстрацыі, хораша напісаны і цікавы па зместу тэкст кнігі прыцягваюць да сябе ўвагу.

Адраджэнне готыкі — гэта цікавасць да архітэктурнага стылю сярэдневечча, што ахапіла Еўропу ў два апошнія стагоддзі.

Аўтар даказвае, што зварот да пэўнага напрамку ў архітэктуры цесна звязаны з грамадскай свядомасцю. Так, распаўсюджанню готыкі на Беларусі спрыяла адраджэнне каталіцкай царквы. Аўтар піша: "Зварот да готыкі выступае своеасаблівай формай адмаўлення, а ў іншых выпадках і завуаліраванага палітычнага бунту".

У грамадстве пасля паражэння паўстанняў 1848, 1863—1864 гадоў жыла рамантычная мара пра волю. А абвяшчэнне царскім урадам верацярпімасці і свабоды сумлення спрыяла панаванню готыкі як у культавым, так і ў грамадскім дойлідстве. Праўда, некаторы час, як сведчаць матэрыялы кнігі, класіка ў архітэктурных будынках спалучалася з готыкай. А ўжо на мяжы XIX—XX стагоддзяў у Віленскай дэзіі было пабудавана 44 гатычныя касцёлы, а 21 знаходзіўся ў стадыі будаўніцтва.

Кніга "Адраджэнне готыкі" засяроджвае ўвагу на тым, як фінансавалася будаўніцтва каталіцкіх храмаў. Яны будаваліся, у адрозненне ад праваслаўных, не за кошт дзяржаўнай казны, а з дапамогай фундатараў. Імі былі як заможныя грамадзяне, так і простыя людзі. Часта касцёл будавала ўся вёска талакой.

Асноўная частка брашуры — "Гатычныя манументы" —аповяд пра касцёлы, узведзеныя ў канцы мінулага — пачатку гэтага стагоддзяў. Большасць з тых храмаў, пра якія піша аўтар, захаваліся. Гатычная архітэктура з яе нястрымным імкненнем увышыню, лёгкасцю збудаванняў і сёння можа радаваць людзей.

**Алена СПАСЮК.**

## СТВОРЫМ ФОНД ІМЯ І. ГАШКЕВІЧА

Імя Іосіфа Гашкевіча добра вядомае ў свеце. Сын беларускай зямлі, ён стаў расійскім дыпламатам і вучоным, першым консулам Расіі ў Японіі. Яго пяру належыць першы Японска-расейскі слоўнік, працы па японскай філалогіі. Фактычна Іосіф Гашкевіч стаіць ля вытокаў беларуска-расійска-японскага грамадска-культурнага ўзаемадзеяння. Яго імя носіць таварыства ў Японіі. Яго постаць увекавечана ў помніку, устаноўленым у Японіі, у кнізе Віталія Гузанава "Адысей з Белай Русі".

Улічваючы ўсё гэта, мы, кіраўнікі аддзела культуры Астравецкага райвыканкома Гродзенскай вобласці, праўлення калгаса ў вёсцы Малі Астравецкага раёна і Міжнароднага камітэта беларусістаў, рашылі стаць ініцыятарамі стварэння Міжнароднага беларуска-расійска-японскага фонду імя Іосіфа Гашкевіча, дзейнасць якога была б скіравана:

а) на развіццё беларуска-расійска-японскага грамадскага, эканамічнага і культурнага ўзаемадзеяння, супрацоўніцтва ў галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, гандлю, культуры, арганізацыю сумесных прадпрыемстваў;

б) на ўвекавечанне памяці Іосіфа Гашкевіча на яго радзіме, дзе ён нарадзіўся, правёў апошнія дні жыцця і пахаваны, а таксама ў Японіі; на перавыданне яго навуковай спадчыны; на стварэнне ў в. Малі, дзе быў яго маёнтак і дзе ён памёр, мемарыяльнага музея, будаўніцтва ў г.п. Астравец, дзе ён пахаваны, бібліятэкі яго імя.

в) на дапамогу ахвярам (і іх нашчадкам) атамных катаклізмаў у Хірасіме, Нагасакі і Чарнобылі, арганізацыю аздараўленчых паездак, стварэнне спецыялізаваных медыцынскіх цэнтраў.

У адрозненне ад стварэння іншых аналагічных фондаў мы прапануем пачаць дзеяне з канкрэтнай справы: адкрыцця ў в. Малі Астравецкага раёна, дзе І. Гашкевіч правёў апошнія гады свайго жыцця, помніка і музейнай экспазіцыі, прысвечаных яму. Праект помніка ўжо зроблены вядомым беларускім скульптарам Валерыем Янушкевічам. Матэрыялы для экспазіцыі сабраны Астравецкай раённай бібліятэкай і Міжнародным камітэтам беларусістаў. Адкрыццё помніка і экспазіцыі плануецца на лістапад 1993 года. Тады ж прапануем прыняць распрацаваны загадзя праект Статута Міжнароднага фонду імя І. Гашкевіча, выбраць яго кіруючыя органы.

Заклікаем зацікаўленыя ўстановы, грамадскія арганізацыі, прыватныя фірмы і асобных грамадзян падтрымаць нашу ініцыятыву, стаць сузаснавальнікамі фонду, дзеля чаго:

а) выказаць сваю згоду на ўдзел ва ўрачыстасцях і заснаванні фонду па адрасу: Беларусь, 231210, г.п. Астравец, вул. Кастрычніцкая, аддзел культуры.

б) пералічыць на рахунак Астравецкага раённага аддзела культуры, які ўзяўся быць каардынатарам і заказчыкам помніка (разліковы рахунак N 01530718 у Астравецкім аграпрамбанку), пэўную суму грошай на адліўку помніка ў бронзе і абсталяванне музея.

**Загадчык аддзела культуры Астравецкага райвыканкома Данута ЧАРНУШЭВІЧ**

**Старшыня калгаса ў вёсцы Малі Часлаў РЫНКЕВІЧ**

**Прэзідэнт Міжнароднага камітэта беларусістаў Адам МАЛЬДЗІС.**

# ШКОЛА: НОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

Здаецца, што на нарадзе па падрыхтоўцы сацыяльна-культурнага комплексу да новага навучальнага года, што прайшла ў Савеце Міністраў рэспублікі, не знайшлося ніводнага пытання, на якое было б магчыма даць цалкам станоўчы адказ. З-за адсутнасці паліва зрываецца дастаўка падручнікаў у школы, з-за запазычанасцей і адсутнасці расійскіх рублёў зрываюцца пастаўкі рускамоўных падручнікаў, не хапае выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, няма грошай на набыццё вучэбнага абсталявання, мэблі, сродкаў навучання, будуць скарачацца школьныя абеды і вучням прыйдзецца карыстацца ў асноўным буфетамі. Але як бы там ні было, першага верасня зазвінеў у нашых школах званок, пачаўся новы навучальны год. І акрамя бясконцых "не хапае" і "няма", ёсць у яго і іншыя, не такія сумныя адметныя рысы. Па-першае, у гэтым навучальным годзе школы будуць працаваць па новых праграмах, у прыватнасці, па такіх прадметах, як гісторыя і геаграфія. У той жа час ідзе падрыхтоўка да змяненняў літаратурнай, моўнай і інфармацыйнай адукацыі. Выдаюцца і новыя падручнікі. 27 назваў іх для вучняў 4—11 класаў выпусціла выдавецтва "Беларускі Дом друку". Іх тыраж складае 1 мільён 700 тысяч экземпляраў. А агульны тыраж падручнікаў ста трыццаці назваў для беларускіх школьнікаў складзе ў гэтым годзе пятнаццаць мільёнаў экземпляраў. У іх знойдуць сваё адлюстраванне тыя значныя змены, што адбыліся за апошнія гады ў грамадскім і палітычным жыцці рэспублікі. Асаблівую ўвагу ў 1993/94 навучальным годзе вырашана ўдзяліць і выкананню Закона аб мовах. Па папярэдніх даных, сёлета на беларускай мове будуць вучыцца 76,6 працэнта першакласнікаў. Паступова пяройдуць на беларускамоўнае выхаванне пазашкольныя і дашкольныя ўстановы, а таксама прафесійна-тэхнічныя вучылішчы.

Даўно ўжо не чуваць знакамітага лозунга былых гадоў: "Усё лепшае — дзецям". Але можа гэта не так ужо і дрэнна? Бо дзе пачынаюцца лозунгі, там канчаецца справа. Глядзіш, калі-небудзь без залішніх слоў і гучных заклікаў мы ўсё ж такі навучымся шанаваць не толькі мінулае, але і будучыню.





## "ГРУНВАЛЬД" ПАД МІНСКАМ

Вось ужо чацвёрты год па ініцыятыве гарадскога бацькоўскага камітэта беларускамоўных класаў Мінска працаваў летнік "Грунвальд". Ён мае гісторыка-культурную накіраванасць. Праграма летніка прадугледжвае канкрэтны расклад дня, разнастайныя спартыўныя спаборніцтвы і гульні, купанне, плаванне, добрае харчаванне, карацей кажучы, усё тое, што спрыяе аздараўленню дзяцей.

Акрамя адпачынку, дзеці тут маюць магчымасць знайсці занятак, які іх найболей цікавіць, паглыбіць веды нацыянальнай гісторыі ды народнай традыцыі, пазнаёміцца з народнымі рамёствамі.

Вельмі прыемна адзначыць, што колькасць беларускамоўных дзяцей за гэтыя гады значна павялічылася. Тыя 200 месцаў, на якія разлічаны летнік, ужо ніяк не могуць задаволіць патрэбы ўсіх жадаючых у ім адпачыць. Менавіта таму А. Шамак — старшыня бацькоўскага камітэта спадзяецца атрымаць зямлю пад новы летнік каля Мінскага мора. Пакуль што — гэта мара. Вельмі добра, што яна ёсць і ёсць людзі, якія робяць гэту справу. А зараз адпачыўшыя дзеці вярнуліся ў свае сем'і і з новымі сіламі пачалі падрыхтоўку да навучальнага года.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: у летніку "Грунвальд".**



### МІЖНАРОДНАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ БЕЛАРУСІСТАЎ

**планує новыя навуковыя канферэнцыі. Адна з іх будзе прысвечана 440-годдзю Рэфармацыі ў Беларусі і пройдзе ў канцы лістапада 1993 года ў Мінску. Другая прымеркавана да 110-годдзя з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага. Адбудзецца яна ў канцы кастрычніка 1993 года ў памяшканні Наваполацкага політэхнічнага інстытута.**

**Калі хто з чытачоў "Голасу Радзімы" захоча ўдзельнічаць як дакладчык у рабоце канферэнцый, прысылайце, калі ласка, заяўкі на Цэнтр імя Ф. Скарыны (г. Мінск-72, пр. Ф. Скарыны, 66, п. 420).**

*СПОРТ*

## НАШЫ Ў ІСПАНІІ

Галіну Савіцкую, адну з мацнейшых баскетбалістак мінскага "Гарызонта" і зборнай былога СССР, заслужанага майстра спорту, у Беларусі ведаюць многія. Некалькі гадоў назад яна раптам "знікла". І таму было прыемна ўбачыць яе нядаўна на вуліцах Мінска. Праўда, пагутарыць з ёю ўдалося не многім спартыўным журналістам, бо хутка яна зноў адправілася ў дарогу.

Прапаноўваем нашым чытачам некалькі адказаў Галіны Савіцкай з інтэрв'ю, якое яна паспела даць, прыехаўшы на радзіму.

— Дзе вы цяпер, чым займаецеся?

— Чатыры гады назад пасрэдніцкая фірма "Чэлек" дапамагла мне ўладкавацца ў іспанскую "Навару"...

— Чаму ў "Навару"?.. Заслужаны майстар спорту, адна з лепшых нападаючых сусветнага баскетбола, — і пайшлі ў клуб-серадначок. Няўжо не было лепшых прапаноў?

— Прапаноў было шмат з самых вядомых замежных клубаў. Але выбрала гэты, бо "Навара" па сваёй манеры гульні нагадвае мне родны "Гарызонт"...

— Але штосьці не бачым мы "Навару" сярод лідэраў першынстваў.

— Так, клуб, можна сказаць, "серадначок", на медалі не прэтэндуе. Больш таго, нядаўна быў на мяжы выхаду з вышэйшай лігі. Цяпер, праўда, справы папраўляюцца.

— І гэта звязана з прыходам у клуб Галіны Савіцкай?

— І мяне таксама. Жаночы баскетбол у Іспаніі не вельмі высокага класа. Таму галоўная стаўка робіцца на "легіянерак". Я без перабольшання з'яўляюся лідэрам у "Навары". Набіраю ў гульнях з сапернікамі па 20—40 ачкоў.

— Вы прыехалі ў Мінск назаўсёды?

— Не, толькі на тыдні два. Вельмі хацелася пабачыцца са знаёмымі, паглядзець, што робіцца тут, калі Беларусь стала самастойнай дзяржавай. Пасля паеду назад у Іспанію, заключыла кантракт яшчэ на тры гады.

— Напэўна, вас ужо там добра ведаюць?

— Ведаюць і пазнаюць, калі іду па вуліцах Памплона, просяць аўтографы.

— Можа і непрыемнае пытанне, але яно так і круціцца на языку: вядома, што жаночая баскетбольная каманда Беларусі вельмі дрэнна выступіла на адборачным чэмпіянаце Еўропы ў Румыніі. Чаму вы не прыехалі на гэтыя спаборніцтвы, не дапамаглі?

— Я наогул нічога не ведала пра гэтыя спаборніцтвы. Акрамя тэрміну іх правядзення. Ніколі не адмовілася б згуляць за зборную Беларусі. Мяне з Іспаніі адпусцілі б. Вельмі крыўдна, што нашы баскетбалісткі выступілі так няўдала. Прыехала б... Вось толькі можа ўзніклі б праблемы з уладкаваннем сына.

— Вы з Антошкам па-ранейшаму ўдваіх?

— Так, у нас добрая, даўно абжытая кватэра. Сын пойдзе ў другі клас. Іспанскай мовай валодае лепей, чым рускай, вучыць англійскую. Лічыце, што жывецца мне нядрэнна. Я задаволена. Хаця і не забываю пра Беларусь, удзячная ёй за ўсё, што яна для мяне зрабіла. Мару вярнуцца сюды...

## ЯШЧЭ АДЗІН ШУШКЕВІЧ

Газета "Кур'ер Віленскі" прадставіла чытачам постаць выдатнага, але забытага беларускага вучонага-археолага Вандаліна Шушкевіча. Ён нарадзіўся ў 1852 годзе ў вёсцы Нача, што за 15 кіламетраў ад Эйшышкеса. Вучыўся ў Вільні, з маладых гадоў цікавіўся антрапалогіяй, заалогіяй і старажытнай гісторыяй. Атрымаўшы навуковую ступень, В. Шушкевіч вярнуўся ў родныя мясціны, дзе стварыў эканамічны гурток і пачаў ставіць сельскагаспадарчыя эксперыменты. У 80-х гадах мінулага стагоддзя В. Шушкевіч праводзіў археалагічныя раскопкі ў ваколіцах роднай вёскі і меў вельмі цікавыя вынікі — у дзесятках курганоў ён знайшоў каменныя труны XIII—XIV стагоддзяў. Усяго на тэрыторыі Лідскага павета Шушкевіч вывучыў 290 такіх трунаў. Свае пошукі ён працягваў і ў ваколіцах Віцебска, Радашковічаў. Прадметы яго раскопак захоўваюцца сёння ў калекцыях музеяў Санкт-Пецярбурга, Масквы, Кракава, Варшавы і Вільні. На падставе знаходак вучоны выдаў больш за 10 навуковых прац. У свой час Вандалін Шушкевіч быў чалавекам, якога добра ведалі ў навуковых колах. Ён з'яўляўся членам-карэспандэнтам Кракаўскай акадэміі навук. Памёр В. Шушкевіч у 1915 годзе і пахаваны ў сямейнай грабніцы непадалёку ад вёскі Нача.

На жаль, землякі вучонага забыліся пра свайго суродзіча. Ад дома, у якім ён жыў, не засталося і следу.Ператварылася ў руіны і сямейная грабніца.

### КАРОТКІЯ ПАВЕДАМЛЕННІ

ФУТБОЛ. Юнацкая зборная Беларусі па футболу выйшла пераможцам адборачных гульняў чэмпіянату Еўропы. Спаборніцтвы праходзілі ў Паўночнай Ірландыі.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. Два сярэбраныя і два бронзавыя медалі заваявала каманда Беларусі на чэмпіянаце свету ў Штутгарце. Прызёрамі сталі кідальнік молата Ігар Астапковіч, дзесяцібарац Эдуард Хямяляйнен, сяміборка Святлана Бурага і кідальніца кап'я Наталля Шыкаленка.

ХАКЕЙ. Стаўшы пераможцамі міжнароднага турніру ў Маскве, спартсмены мінскай каманды "Цівалі" адправіліся ў турнэ па Польшчы. У першым матчы беларуская каманда перамагла зборную гэтай краіны з лікам 7:3.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1239. Падпісана да друку 30. 08.1993 г.